



# Рэгіянальная газета. Rh.by

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

26 ліпеня 2019 года №30 (1265) 18+




# Каб дапамагчы вылечыць хлопчыка, зладзілі свята




старонка 2

Госці свята «Вер у яго». Фота Эвеліны САВЕЛЬЕВАЙ.



«Сяброўкі» па інтымнай перапісцы патрабавалі выкуп. По той бок манітора аказаліся махляры.

старонка 4



ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт http://rh.by/





Гімнастычны нумар на кані.



Госці маглі пагуляць з жывёламі.



Дзеці малявалі для Цімы і пісалі розныя пажаданні.



Маленькім гасцям свята прыйшоўся даспадобы каўбойскі стыль.




Галоўная тэма свята – варта дапамагаць адзін аднаму.

# Каб дапамагчы вылечыць хлопчыка, зладзілі свята

МАЛАДЗЕЧНА

**Дабрачыннае мерапрыемства «Вер у яго» зладзілі ў Маладзечне ў нядзелю, 21 ліпеня.**

Арганізавалі імпрэзу ўдзельнікі сацыяльнага грамадскага аб'яднання бацькоў «Бумеранг дабра».

Адна з арганізатараў **Кацярына Шафаловіч** расказала пра тое, чаму яны вырашылі дапамагчы маладзечанскаму хлопчыку менавіта такім чынам:

– Гэта было наша першае такое маштабнае дабрачыннае свята. Раней мы праводзілі розныя мерапрыемствы, але менавіта па зборы сродкаў на рэабілітацыю – упершыню. Да нас у «Бумеранг дабра» звярнулася дзяўчына, якая з сацыяльных сетак даведалася, што **Цімафей Рацькоў** хворы і яму трэба грошы на рэабілітацыю. Яна пацікавілася, ці зможам мы дапамагчы, і дала кантакты мамы Цімафея **Анастасіі**.

У гэты ж дзень арганізатары звязаліся з жанчынай і зразумелі, што ім сапраўды патрэбная дапамога, у адзіночку сям'я Рацяў не справіцца.

– Пагадзіліся дапамагчы, таму што чужых дзяцей не бывае, а тым больш бацькі Цімафея з Маладзечна, – дзеліцца Шафаловіч. – Доўга думалі, як зрабіць так, каб вельмі хутка сабраць як мага больш сродкаў. Вырашылі арганізаваць маштабнае вясёлае свята. Якраз у гэты час перамаўляліся з сядзібай «Мара дзяцінства» аб супрацоўніцтве, таму вырашылі праводзіць мерапрыемства менавіта там. Далей сталі падключаць актывістаў горада – аніматараў, фатографаў, кандытараў, рукадзельніц. Ахвотных дапамагчы Цімафею аказалася шмат.

### Што было на свяце

Арганізатары зладзілі маштабнае сямейнае свята, на якім і дзеці, і дарослыя маглі ўдзельнічаць у розных актыўнасцях.

Пакатацца на конях, узаемадзейнічаць з рознымі жывёламі, пабачыць гімнастычныя нумары на конях, далучыцца да майстар-класаў і конкурсаў.

Дзецям падабаюцца папулярныя цяпер фарбы холі, аквагрым. Былі таксама дабрачынныя аўкцыён і латарэя.

### Аб'ядналіся для агульнай справы

Аграсядзіба «Мара дзяцінства» не толькі дала пляцоўку для свята і арганізавала магчымасць пагуляць з жывёламі. Усе грошы, якія сабралі з ахвотных пакатацца на конях, перадалі на рахунак Цімы.

**Вікторыя Варанюк**, **Ірына Паўлоўская** і **Таццяна Брылеўская** прыгатавалі да свята выпечку. **Ганна Кічыгіна** правяла майстар-клас, **Кацярына Краўчонак** была вядучай, а аніматары ад студыі «Задорынка» і **Ганна Кобель** весялілі гасцей. Фатографы **Эвеліна Савельева**, **Ірына Калядчык** і **Веранiка Ліпніцкая** рабілі фотаздымкі, каб яскравыя моманты свята запомніліся назаўсёды.

Рукадзельнікі перадалі вырабы ручной работы для латарэі і аўкцыёну.

Сярод дзяцей многія захацелі падтрымаць Ціму сваімі малюнкамі з пажаданнямі.

### «Так кранальна»

Госці атрымалі не проста дабрачынны канцэрт, а свята, падчас якога змаглі дапамагчы хвораму хлопчыку. Бацькі ацанілі такі падыход. Вось які водгук напісала маладзечанка **Валянціна Сідоркіна**:

«Учора з дачкой паўдзельнічала ў дабрачынным мерапрыемстве. Яго правялі ў падтрымку хлопчыка Цімафея з Маладзечна, усе сабраныя грошы пойдуць на яго лячэнне. Калі столькі людзей аб'ядноўваецца для адной агульнай справы – гэта так кранальна! І хаця мерапрыемства прайшло, дапамагчы можна ў любы момант. Гэта быў цудоўны дзень!»

### Сабралі 1730 рублёў

Свята прынесла плён – агульнымі намаганнямі ўдзельнікі сабралі 1730 рублёў, якія пералічылі на рахунак Цімы.

– Мы лічым, што мерапрыемства прайшло паспяхова! – дзеліцца Кацярына Шафаловіч. – Жыхары горада выдатна правялі час на свяце. Грошы пералічылі, а таксама ўсе дзіцячыя малюнкі з пажаданнямі перададзім бацькам хлопчыка. І ён стаў бліжэй да сваёй мэты навучыцца хадзіць і размаўляць. Верце ў Цімафея – і ён абавязкова паправіцца!

### Ціму можна яшчэ дапамагчы

Цімафей Рацькоў мае дыягназ ДЦП, спастычны тэтрапарэз.

З-за дыягназу хлопчык пакуль не ўмее хадзіць, размаўляць, быць звычайным дзіцем. Гэта не лечыцца, але можна паспяхова рэабілітаваць. Пакуль Ціма маленькі, яго можна навучыць кіраваць сваім целам. Якасная рэабілітацыя дарагая. Цяпер хлопчык на курсе рэабілітацыі ў Чэхіі. Наступны курс будзе восенню ў Варшаве. Агульная сума збору складае 3220 еўра.

Наколькі была важнай дапамога арганізатараў і ўдзельнікаў свята, расказаў тата Цімы **Андрэй**:

– Дзякуем арганізатарам за гэта мерапрыемства, яно было вельмі насычаным. Людзі прыязджалі з маленькімі дзецьмі, ім было весела – маса забаў для дзяцей і бацькоў. Дзеці малявалі цудоўных конікаў са словамі падтрымкі Цімафею, мы абавязкова павесім іх у пакоі Цімы. Вялізны дзякуй арганізатарам «Бумерангу дабра» і аграсядзібе «Мара дзяцінства» і ўсім людзям, хто дапамог нам. Дзякуючы сабраным грошам восенню Ціма паедзе на наступны курс рэабілітацыі ў Польшчу.

Пералічыць грошы для дапамогі маленькаму маладзечанцу можна на карту Беларусбанка 4255 2003 0217 9932 да 05/22 на імя Рацькоў А. С. Нумар тэлефона для папаўнення балансу +375 29 238 50 49.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота Эвеліны САВЕЛЬЕВАЙ і Ірыны КАЛЯДЧЫК.**

# Якія выплаты павысяць ад жніўня

**Падсумоўваем, на колькі і якія выплаты павысяць у апошнім месяцы лета.**

Мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі прывязаныя да памеру бюджэту пражытачнага мінімуму (БПМ). Ад жніўня гэта лічба вырасце да 230,91 рубля (цяпер яна складае 224,02 рубля).

Ад жніўня павысяць надбаўкі, павышэнні да пенсій для людзей ад 75 гадоў, якія атрымліваюць пенсіі ў органах па працы, занятасці і сацабароне. Павысяць дапамогі па доглядзе за людзьмі з інваліднасцю I групы або за асобай ад 80 год.

Мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі пераглядаюць раз на квартал, яны мяняюцца разам з бюджэтам пражытачнага мінімуму.

Працоўныя пенсіі таксама павысяць ад 1 жніўня. Рост складзе прыкладна 6,6%. Мінпрацы ацэньвае, што сярэдні памер працоўнай пенсіі вырасце да 438 рублёў, а сярэдні памер пенсіі па ўзросце вырасце да 446,1 рубля.



Фота vistanews.ru.

Пенсіянеры ў жніўні атрымаюць больш.

**Ад 1 жніўня вырастуць дапамогі па нараджэнні дзяцей.**

На пачатак чэрвеня ў Беларусі жыло 2 мільёны 540 тысяч 600 пенсіянераў.

**Сярэдняя пенсія па краіне ў маі была 405,1 рубля. Гэтая сума ў 2,4 раза вышэйшая за БПМ для пенсіянераў.**

Улады не першы год плануюць падняць сярэдні памер пенсій да 40% ад сярэдняга заробку па краіне. Спачатку хацелі выйсці на гэты паказчык у 2018 годзе, але давялося перанесці на 2019.

**Паводле FINANCE.TUT.BY.**

## ЛІЧБА НУМАРА

**6,7%**

ад агульнага аб'ёму прамысловай вытворчасці краіны займае металургічная прадукцыя.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 18.07 | 25.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.0341 | **2.0282** |
| **Еўра** | 2.2787 | **2.2585** |
| **Злоты, 10** | 5.3548 | **5.3192** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.2311 | **3.2129** |
| **Грыўня, 100** | 7.8674 | **7.9594** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **17.07** | **24.07** |
| **Еўра** | 2.2600/2.2880 | **2.2500/2.2650** |
| **Долар ЗША** | 2.0170/2.0370 | **2.0100/2.0300** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | **17.07** | **24.07** |
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 19,80 | **19,80** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 3,25 | **3,25** |
| **Сасіскі «Малочныя», 1 кг** | 7,37 | **7,37** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 10,00 | **10,00** |
| **Карп жывы, 1 кг** | 4,90 | **4,30** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 5,80 | **5,80** |
| **Селядзец, 1 кг** | 5,50 | **–** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 15,60 | **15,60** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 1,45 | **1,45** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 1,85 | **1,85** |
| **Алей, 1 л** | 3,00 | **3,00** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,22 | **2,20** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,60 | **1,40** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 1,80 | **1,80** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 1,30 | **1,30** |
| **Агуркі, 1 кг** | 1,20 | **1,00** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 2,50 | **1,90** |
| **Бульба, 1 кг** | 1,20 | **1,00** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,50 | **1,00** |
| **Кабачок, 1 кг** | 0,70 | **0,70** |
| **Капуста, 1 кг** | 1,00 | **0,99** |
| **Морква, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Лісічкі, 500 мл** | 2,00 | **2,00** |
| **Памідоры, 1 кг** | 3,30 | **2,50** |
| **Перац, 1 кг** | 5,50 | **4,95** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,30 | **1,50** |
| **Часнок, 1 кг** | 4,50 | **3,50** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Абрыкосы, 1 кг** | 2,80 | **2,80** |
| **Бананы, 1 кг** | 2,80 | **2,80** |
| **Вінаград, 1 кг** | 5,50 | **5,50** |
| **Дыня, 1 кг** | 3,00 | **2,00** |
| **Кавун, 1 кг** | 0,95 | **1,00** |
| **Грушы, 1 кг** | 3,70 | **3,90** |
| **Слівы, 1 кг** | 3,30 | **2,80** |
| **Чарніцы, 500 мл** | 2,00 | **2,50** |
| **Чарэшня, 1 кг** | 6,50 | **4,90** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,50 | **1,50** |
| **Масла, 1 кг** | 15,00 | **15,00** |
| **Сала, 1 кг** | 12,50 | **12,50** |
| **Сыр, 1 кг** | 12,00 | **12,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 7,00 | **7,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 3,00 | **3,00** |

## У жніўні ў Маладзечне пачнуць адключаць гарачую ваду

Ад 1 да 28 жніўня ў Маладзечне запланаванае адключэнне гарачай вады.

Пра гэта «Рэгіянальнай газеце» распавёў начальнік службы цеплавых сетак Маладзечанскіх электрычных сетак **Алег Садоўскі**.

**Адключэнне вады пройдзе ў два этапы. Першы этап: 1-14 жніўня, па зоне абслугоўвання міні-ЦЭЦ. Другі этап: 15-28 жніўня, па зоне абслугоўвання кацельні №2.**

– Калі мы знойдзем пашкоджанні, то будзем узгадняць графік і згодна з гэтым графікам выконваць дадатковыя рамонтныя работы. На некаторых участках, дзе знойдуць пашкоджанні, адключэнне вады можа быць падоўжанае, – кажа Садоўскі.

**Аддзел інфармацыі.**

## Падлетак зладзіў у лесе цэх па аўтаразборцы

**У міліцыю звярнуўся 42-гадовы жыхар Краснага Маладзечанскага раёна з заявай аб тым, што невядомы скраў матацыкл «Мінск» чырвонага колеру. Яго гаспадар пакінуў ля пад'езда.**

Спахапіўся ўладальнік жалезнага каня праз два дні. Матацыкл 2003 года выпуску быў прыпаркаваны ў двары па вуліцы Лягаснай. І прышпілены замком.

Кошт матацыкла ўладальнік ацаніў у 600 рублёў.

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў супрацоўнікі крымінальнага вышуку ўстанавілі асобу падазраванага. Ім аказаўся 16-гадовы жыхар суседняй вёскі. Падлетка затрымалі.

Гісторыя крадзяжу банальная. Двое непаўналетніх гулялі ў раёне возера ў Красным. Адзін з іх прыкмеціў матацыкл, сарваў замок і пацягнуў з месца паркоўкі. Таварышу сказаў, што нібыта знаёмы даў пакатацца. Сумеснымі намаганнямі хлопцы завялі транспартны сродак і паехалі ў Мясату. Дабраўшыся да вуліцы Набярэжнай, зламыснік прызнаўся, што правоў у яго няма, таму матацыкл дадому не пацягне, бо бацькі будуць сварыцца. Скрадзены матацыкл юнак вырашыў схаваць непадалёку ў лесе пад галінкамі.

Адразу ж узнік план: разабраць транспартны сродак на запчасткі і, размясціўшы аб'яву, прадаць.

**Частку запчастак прадаў. І бізнес мог быць паспяховым, калі б не ўмяшаліся праваахоўнікі. Пакінутыя дэталі скрадзенага ў лесе знайшлі аператыўнікі.**

У выніку замест прыбытковай справы ў фігуранта крымінальны артыкул «Крадзеж». Цяпер яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да трох гадоў.

Ад верасня 2017 года ў дачыненні да непаўналетняга праводзяць індывідуальна-прафілактычную работу. Тады ў поле зроку супрацоўнікаў міліцыі ён патрапіў за распіванне спіртнога.

**Маладзечанскі РАУС.**

• УВАГА! ВЫШУК

## Маладзечанец паехаў на заробкі ў Расію і пяць месяцаў не выходзіць на сувязь

**17 ліпеня ў Маладзечанскі РАУС звярнуўся 53-гадовы маладзечанец.**



Ён паведаміў, што яго 34-гадовы сын **Луцкі Аляксандр Леанідавіч** у верасні 2018 года з'ехаў у Расію на заробкі.

Са сваякамі кантактаваў у сацыяльнай сетцы «Аднакласнікі». Ад 16 лютага перастаў выходзіць на сувязь і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае.

Паводле аператыўнай інфармацыі, зніклы на заробкі ездзіць шосты год. Размаўляючы з бацькам, мужчына расказваў, што працаваў аддзелачнікам фасадаў дамоў у раёне Ізмайлава і Даўгапрудны ў Маскве.

Казаў, што плануе знайсці іншае месца працы.

Прыкметы: на выгляд 34-35 гадоў, рост каля 178-180 см, хударлявы. Вочы карыя, валасы прамыя, светла-русыя, кароткія. Памер абутку 43.

Асаблівыя прыкметы: на левай шчацэ ад краю вуснаў шнар каля 2 см.

Маладзечанскі РАУС пераканаўча просіць грамадзян, якія ведаюць што-небудзь пра месцазнаходжанне зніклага, паведаміць у міліцыю па тэл. **102, 8 (0176) 74-96-83, 8 (0176) 77-16-56, 8 (029) 546-40-44, 8 (029) 555-49-71** альбо па адрасе: г. Маладзечна, вул. Галіцкага, 23.



Маладзечанцы думалі, што перапісваюцца з чароўнымі дзяўчатамі. А па той бок манітора аказаліся махляры.

# «Сяброўкі» па інтымнай перапісцы патрабавалі выкуп

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскія праваахоўнікі праводзяць праверку адразу па двух фактах вымагання.**

Грамадзяне звярнуліся з заявамі, што ледзь не пазбавіліся немалых сум грошай. На сайце знаёмстваў і ў сацсетках пацярпелыя мелі зносіны з дзяўчатамі. Фрывольная перапіска скончылася патрабаваннем перавесці грошы.

У абодвух адна гісторыя – пазнаёміліся анлайн, перапісваліся, фліртавалі. Калі справа дайшла да пікантнага моманту, фармат зносін змяніўся.

Замест ласкі – сума і нумар рахунка, які наваспечаным сябрам прапаноўвалася папоўніць. У адваротным выпадку інтымныя фатаграфіі ўбачаць усе інтэрнэт-сябры з кантакт-ліста. Жадаючы «замяць» справу, многія выконваюць патрабаванне аферыстаў і адсылаюць грошы. Аднак бывала, што і на гэтым гісторыя не заканчвалася – апетыты вымагальнікаў раслі.

25-гадовы жыхар Маладзечна ў групе знаёмстваў у сацыяльнай сетцы «Укантакце» пачаў размаўляць з дзяўчынай. Ёй хапіла і трох гадзін, каб уцерціся ў давер і займець інтымныя фатаграфіі хлопца.

Галоўная ўмова – каб на малюнку былі бачныя геніталіі і твар. Выканаўшы такую «вострую» просьбу (дарэчы, для ўзору дзяўчына першая выслала сваё фота, але адразу выдаліла), прыйшло паведамленне «200 на карту і ўсё выдалю» і рэквізіты. Якая валюта плацяжу, паказана не было. Ліміт часу – 30 хвілін.

Плаціць за маўчанне маладзечанец не стаў, звярнуўся ў міліцыю. На дадзеным факце ўзбуджаная крымінальная справа па артыкуле «Вымаганне». Асоба зламысніка не ўсталявана, праваахоўнікі праводзяць праверку.

Вядуцца на выкрут аферыстаў падлеткі і дарослыя. Пагаршаецца сітуацыя, калі вымаганне грошай падмацаванае пагрозамі расказаць пра ўсё жонцы альбо мужу. Свайго роду псіхалагічны ход, пасля якога ахвяра гатовая заплаціць любыя грошы, каб не раскрыць сваё «асабістае».

Так здарылася і з 23-гадовым выхадцам з Гродна, які каля шасці гадоў жыве з сям'ёй у Маладзечне. На інтэрнэт-партале ў яго з'явілася сяброўка. Па яе словах, ёй 28 гадоў і яна родам з Гомеля. Перапісваліся ў розных мэсенджарах, абмяняліся інтымнымі фота.

Так хлопец неўсвядомлена сам «аддаў» кампрамат у рукі махляра. Далей аказалася, што па той бок экрана і зусім быў мужчына. Ён патрабаваў, каб маладзечанец раскашэліўся на 250-350 долараў за інфармацыю. Грашовую кампенсацыю трэба было перавесці на QIWI-кашалёк у крыптавалюце.

Давесці справу да канца зламыснік спрабаваў любым шляхам. Ён звязаўся са знаёмымі хлопца і нават напісаў жонцы!

Шантажыраваў яго не толькі апублікаваннем фотаздымкаў, але і інтэрпрэтацыяй іх зносін, нібыта «анлайн» ён чапляўся да 17-гадовай дзяўчыны.

Цяпер праваахоўнікі разбіраюцца ў абставінах здарэння. Аператыўнікі абгрунтавана лічаць, што след у гэтай гісторыі выходзіць за межы краіны. Як мяркуецца, зламыснік знаходзіцца на тэрыторыі Расіі.

– Некаторыя грамадзяне жывуць толькі за кошт пералічэнняў ад тых, хто баіцца распаўсюджвання падобных фота- або відэаматэрыялаў. Усё часцей маладзечанцы, карыстальнікі інтэрнэту, становяцца ахвярамі інтымнага шантажу. Да таго ж, большасць сутыкаецца з замежнымі вымагальнікамі. У такіх выпадках разбіральніцтва можа расцягнуцца на доўгі час, а магчымасць вылічыць і знайсці ананімнага злачынцу зводзіцца да нуля. Таму міліцыя рэкамендуе не весці інтымных перапісак у інтэрнэце, – падкрэсліў першы намеснік Маладзечанскага РАУС начальнік крымінальнай міліцыі **Юры Карчмоў**.

**Маладзечанскі РАУС.**

## Па ўсёй Міншчыне ДАІ праводзіць праверку на хуткасць

**Ад 25 да 28 ліпеня праходзіць абласная прафілактычная акцыя «Хуткасць».**

26 ліпеня будзе адзіны дзень бяспекі дарожнага руху пад дэвізам «Скінь хуткасць!».

Падчас акцыі дзяржаўтаінспектары будуць кантраляваць дарожны рух рознымі спосабамі. Будуць сачыць за выкананнем патрабаванняў правілаў дарожнага руху, выкарыстоўваць фотафіксацыю. Для мерапрыемства выкарыстаюць аўтамабілі грамадзянскай афарбоўкі з прыборамі «Арэна», «Візір», «Бінар».

Падчас акцыі да парушальнікаў-ліхачоў будуць прымяняць самыя строгія меры пакарання.

За перавышэнне хуткасці ад 10 да 20 км/гадз. штраф складзе 1 базавую велічыню.

Ад 20 да 30 км/гадз. – ад 1 да 3 базавых велічынь.

30 і больш км/гадз. – 3-10 базавых велічынь.

За паўторнае парушэнне кіроўцы могуць атрымаць максімальнае пакаранне – пазбаўленне правоў да года.

За перавышэнне рэжымаў хуткасці на тэрыторыі Маладзечанскага раёна да адміністрацыйнай адказнасці сёлета прыцягнулі 400 вадзіцеляў.

Ад пачатку года ў раёне было 17 аварый, у якіх загінуў 1 чалавек, 18 атрымалі пашкоджанні. Дзве з іх адбыліся па віне нецвярозых кіроўцаў. У двух аварыях, якія адбыліся з-за няправільнага выбару хуткасці, пацярпелі два кіроўцы.

**Сяргей БАРТОШ,**
**дзяржаўтаінспекцыя Маладзечанскага раёна.**



Фота Марыі БЕРАСНЕВАЙ.

Любы адпачынак можа сапсаваць штраф. Таму вывучыце заканадаўства, каб не было непрыемных сюрпрызаў.

# Дзе ставіць машыну і якія лодкі браць. Што змянілася ў законе

**Ад 14 чэрвеня ў Беларусі пачала дзейнічаць новая рэдакцыя закона «Аб асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях».**

Рэжым аховы і выкарыстання такіх тэрыторый (ААПТ) – запаведнікаў, заказнікаў, нацыянальных паркаў, помнікаў прыроды – атрымаў некаторыя змены, у тым ліку яны закранулі арганізацыі адпачынку і турызму.

Згодна з артыкулам 24 закона, на асабліва ахоўных прыродных тэрыторыях забаронены рух і стаянка аўтатранспарту па-за дарогамі агульнага карыстання і спецыяльна абсталяваных месцаў.

На водных аб'ектах, размешчаных у межах ААПТ, нельга выкарыстоўваць лодкі з маторамі магутнасцю больш за 15 конскіх сіл.

Што тычыцца размяшчэння намётаў і намётавых гарадкоў, турыстычных стаянак, то гэта магчыма толькі ў месцах, вызначаных рашэннем гарадскога або раённага выканкама або планам упраўлення ААПТ.

Адпраўляючыся на адпачынак у месцы, якія адносяцца да ААПТ, варта даведацца пра ўмовы, якія вызначаюць прыродакарыстанне. У тым ліку збор грыбоў, ягад, рыбалоўства і іншае. Даведайцеся пра межы запаведніка, заказніка, нацыянальнага парку і помніка прыроды, выкарыстоўваючы кадастравую карту на сайце Нацыянальнага кадастравага агенцтва і карту ААПТ на сайце Мінпрыроды.

**Раман ЛЕСІН,**
**намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

## За вугроў заплаціць больш за 13 тысяч рублёў

МЯДЗЕЛ

**У Мядзельскую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету паведамілі, што на возеры Мядзельскім каля вёскі Стругалапы могуць незаконна лавіць рыбу.**

Праверыць інфармацыю выехала група супрацоўнікаў інспекцыі.

Каля 5:30 20 ліпеня затрымалі жыхара Мядзельскага раёна. Мужчына не працуе, раней яго прыцягвалі да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасці. Ён з выкарыстаннем 107 донных вудаў незаконна злавіў сем вугроў.

У адносінах да яго ўзбудзілі крымінальную справу за незаконную здабычу водных насельнікаў у асабліва буйным памеры. За гэта прадугледжанае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення свабоды да шасці год.

Парушальніку давядзецца сплаціць шкоду, нанесеную прыродзе, у памеры 525 базавых велічынь, а гэта 13 378,5 рубля.

Вугра перавозіў іншы жыхар Мядзельскага раёна на свам аўтамабілі, і ён ведаў, што злавілі вугроў незаконна. У адносінах да яго склалі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні за перавозку вугроў без дакументаў. За гэта пагражае штраф да 30 базавых велічынь, ці 765 рублёў.



Фота kp.by.

Незаконная рыбалка дорага абышлася мядзяльчаніну.

Падчас агляду па месцы яго жыхарства знайшлі дзве рыбалоўныя сеткі агульнай даўжынёй сто метраў. За гэта пагражае штраф да 50 базавых велічынь, ці да 1275 рублёў.

Калі вам вядома пра выпадкі парушэння заканадаўства аб ахове прыроды, просім паведаміць па нумары 8 (01797) 5-07-40 у Мядзельскую інспекцыю або на тэлефон даверу Дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету 8 (017) 390-00-00 або 102.

**Раман ЛЕСІН,**
**намеснік начальніка Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**




# «Ракуцёўскае лета» пройдзе 28 ліпеня

МАЛАДЗЕЧНА

**Роўна 25 год мінула з таго моманту, калі літаратурна-мемарыяльны музей Максіма Багдановіча «Фальварак Ракуцёўшчына» прыняў першых наведнікаў.**

Менавіта ім, першым, выпала акунуцца ў атмасферу старога фальварка, на свае вочы ўбачыць «Дом гаспадара», што прымаў беларускага паэта з далёкага Яраслаўля ў 1911 годзе, наведаць экспазіцыю ў аднаўленым «Дамку арандатара», зазірнуць у гумно і наталіць смагу з крыніцы «жывой вады», пра якую некалі напісаў паэт.

Прайшло шмат гадоў. У музеі «Фальварак Ракуцёўшчына» адкрылася экспазіцыя ў «Доме гаспадара». Яе экспанаты знаёмяць з жыццём былога гаспадара **Вацлава Лычкоўскага** і яго гасцей, распавядаюць пра **Эмілію Шабуню** і яе маленькую дачку **Яніну**, якія былі побач з Максімам два летнія месяцы і пакінулі ўспаміны пра маладога паэта.

**Час ідзе хутка, і вось ужо першыя наведнікі музейнага комплексу таксама сталі сведкамі гісторыі.**

**На свяце гасцей чакаюць:**

- сустрэчы з нашчадкамі **Максіма Багдановіча** і **Эміліі Луцкевіч**, з сучаснымі паэтамі, музыкамі, мастакамі;
- творчыя заданні і квэсты;
- займальныя лекцыі;
- гульні для дзяцей і дарослых і шмат іншых цікавостак.

**Праграма свята:**

**11:00** прывітальная імпрэза каля памятных камянёў і ўскладанне кветак;

**11:30** – знаёмства з музеем «Фальварак Ракуцёўшчына», агляд экспазіцыі;

**12:00** – літаратурна-музычная імпрэза «Пацеркі зор»;

**12:00 – 16:00 – інтэрактывы і забавы для наведнікаў:**

– майстар-клас па напісанні лімерыкаў і інтэлект-«трэніроўка» ад ПЭН-цэнтра;

– гульні «Кніганоша», «Літаратурны кракадзіл», «Музейная шуфлядка»;

– квэст па экспазіцыі;

– майстар-клас па выцінанцы;

– інтэрактыўны дзіцячы спектакль «Ці добра быць суслікам?».

**Аддзел інфармацыі.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **3-30-77.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі-80, 1983 г.в., на запчасткі. Т. (8-029) 8506435.*

• Мерсэдэс МВ-100 па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Ніва, 2005 г.в., 3-дзверная. Новая АКБ, гума. Цалкам абслужаная. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Опель-Вектра В, 2,0, дызель, 2000 г.в. Т. (8-033) 6016803.

• Паланэз КараПлюс, 2001 г.в., 1,6 бензін, цана дагаворная. Т. (8-029) 5867079, (8-029) 8868613.*

• Пежо-405, 1994 г.в., 1,8 Б/Газ. Не патрабуе ўкладанняў. Т. (8-029) 6553719.*

• Фольксваген-Гольф па запчастках. Т. (8-033) 3494378.*

• Фольксваген-Пасат В5, 1997, 1,8 бензін, бардовы. Т. (8-029) 5878833.

• Фольксваген-Транспарцёр Т4, 1997 г.в. (8-029) 8732043.*

• Задні мост ад ЗІЛ-157, укарочаны, з новай гумай. 300 руб., торг. Т. (8-029) 5492191.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО:** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДАРАГА! Т. (8-029) 1477209.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 2016100, (8-029) 1563334.*

• Аўто. Можна аварыйнае! Дорага. Т. (8-029) 5677052.*

• Ваша аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-033) 6675566.*

• Любое аўто на ходу для сябе. Грошы адразу. Т. (8-029) 6412706, (8-029) 7646646.*

• Матацыклы старыя і запчасткі К-750, Ява, Іж, Мінск. Т. (8-029) 6153865.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 9485029.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Магчымы абмен на 3-пакаёвую. Т. (8-029) 2716509.*

• 2-пакаёвая кватэра ў вёсцы Гарадзілава. Цана 21 000 рублёў. Т. (8-029) 9406199.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, 2. Т. (8-029) 7039162.*

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 5692836.

• Гараж у ГБК-2, Вілейка, нядорага. Т. МТС (8-033) 6611354.*

• Гараж з падвалам у ГБК-2, Вілейка. Т. (8-029) 5650208.*

• Дом у 2 км ад Смаргоні. Т. (8-029) 3073813.

• Дом драўляны ў Смаргоні, 500 м ад чыгуначнага вакзала, участак 19 сотак, водаправод, пячное ацяпленне. Т. (8-029) 5912004.*

• Дом у вёсцы Касцяневічы, 90 кв.м, вялікі зямельны ўчастак. Т. (8-029) 8765693.*

• Дом у вёсцы Нясцёркі на беразе вадасховішча (500 м), побач лес (200 м), гаспадарчыя пабудовы, пячное ацяпленне, па вуліцы праведзены газ. Цана дагаворная.Т. (8-033) 6915981.*

• Дом у а.г. Залессе Смаргонскага раёна. 100 кв.м, водаправод, каналізацыя, печкі, камін, хлеў, сад 17 сотак. Новы, прыгожы, дагледжаны. (8-029) 2650961.*

• Дом у в. Кавалі Ільянскага с/с, 5000 руб. Т. (8-029) 7722790.*

• Дом у Маладзечне на вул. Велікасельскай, 0,1 га, газ, вада. Т. (8-033) 6393440.*

• Дом недабудаваны з гаспадарчымі пабудовамі ў Астраўцы. Побач лес і возера. Т. (8-029) 5322793.*

• Участак 16 сотак на беразе ракі Нарачанка. Т. (8-025) 7908663, +370 67656098 (вайбер, ватсап).*

• Участак 19 сотак, прыватызаваны, ёсць лазня, падмурак для дома. Станцыя Татаршчызна, чацверты прыпынак ад Маладзечна. Тэл. (8-029) 1313124.*

• Участак у в. Порса. 30 сотак. Побач газ. Т. (8-029) 1214671.*

### НАЙМУ

• Найму кватэру ў Маладзечне, да 200 рублёў. Тэл. (8-033) 6451110.*

## ПАСЛУГІ

### БУДАЎНІЧАЯ ТЭХНІКА

• Міні-пагрузчык Bobcat, зняцце глебы, planіроўка і г.д. Вышыня выгрузкі 3 м. ІП Кроер, УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Міні-экскаватар. Міні-пагрузчык. Трамбоўка 500 кг. ІП Карповіч В.В. УНП 692013268 Т. (8-029) 9381010.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты, гідрабур пад фундамент на палях (свайные фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044)5522028.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ.** ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бурэнне свідравін (скважин) дыяметрам 32 мм, 63 мм, 90 мм і 125 мм. Работы выконваем магутнай малагабарытнай установкай. Спецыялісты атэставаныя на тэрыторыі РБ. Магчымы выезд для кансультацыі. Кошт работы ад 40 рублёў м/п. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245, (8-044) 5486213.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• **МАНТАЖ-ДЭМАНТАЖ** дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.В. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт камп’ютараў і ноўтбукаў у Маладзечне. Дыягностыка і выезд па горадзе бясплатныя. ІП Мандрык А.А. УНП 692018244. Т. (8-033) 6659479.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Велком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **СПІЛОЎВАННЕ і АБРЭЗКА** дрэў. Магчымы вываз, выкарчоўванне пнёў. Скідкі. ІП Мамай Ю.А. УНП 691895935. Т. Вэлком (8-029) 3301964, МТС (8-029) 8177983.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя. Дастаўка. Разгрузка. Можна ў растэрміноўку. Т. (8-044) 7516244.*

• Цэгла віцебская, вогнетрывалая, пячное ліццё, кладачныя сумесі. Т. (8-029) 8351640, (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Трактар Т-40 з прычэпам. Т. (8-029) 8658044.

**Музінструмент**

• Гармонікі вытворчасці Маладзечна. Адзін для дарослых і адзін для дзяцей. Т. (8-029) 6348540.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Карова, цялушка, быкі. Т. (8-025) 7894666.*

• Козачкі, 5 месяцаў, нядорага. Т. (8-033) 3418019.*

• Пчолы, платформа, 14 шматкорпусных вулляў. Т. (8-044) 5660681 Вэлком. Баляслаў.*

• Парсючкі свойскія пародзістыя. Т. (8-029) 2725536.

**Іншае**

• Дровы колатыя, калодкі. Ваш памер. Т. (8-029) 6106061.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898, Вэлком.*

• Пуцёўкі для дзяцей 6-15 гадоў на 18 дзён на 4 змену ў аздараўленчы лагер «Лясная казка» (в. Глінnae, Вілейскі р-н) прадае ўпраўленне па адукацыі, спорце і турызме Вілейскага райвыканкама. Заезд ад 04.08. па 21.08.2019. Колькасць месцаў абмежаваная. Т. (8-01771) 54247, 55553. УНП 600011155.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т (8-033) 3401475.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Тэрмінова брыгада цесляроў-бетоншчыкаў. Т. (+375) 291230716, (+375) 292233002, WhatsApp, Viber.*

• Сям’я нойме жанчыну (памочніка па доме) на пастаянны працоўны дзень. Зарплата ад 800 руб. Т. (8-044) 5523113.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Брыгада дахаўшчыкоў выканае любыя віды даху; рэканструкцыя старых дахаў. Т. (8-029) 5080891.*

• Выкладчык біялогіі і хіміі шукае падпрацоўку. Т. (8-029) 7615690.*

**ОКНА, ДВЕРИ, БАЛКОНЫ, ЛОДЖИИ из ПВХ**
- Москитные сетки • Откосы
- Регулировка • Замена стеклопакетов

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ**
**РОЛЬШТОРЫ, ЖАЛЮЗИ** РАССРОЧКА КРЕДИТ
- Металлические • Свободносвисающие
- Закрытого типа • День-ночь

(8-029) 874-80-80 МТС • (8-025) 512-92-66 Лайф

ИП Козел В.Е. УНП 691517355

---

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ**
выезд консультация **0** рублей
Беспроцентная **РАССРОЧКА** до 36 месяцев БЕЛАРУСБАНК
Светильники и Карнизы 0 рублей
Расширенная **гарантия** 3 + 2 = **5 лет**
сайт: эталон-потолок.бел 8-029 **344-77-80** **544-77-00**

ИП Лабодаев А.И. УНП 192935585

---

Аналог строй
Строительная организация ООО «Аналог-Строй» приглашает граждан и юридических лиц
**ПРИНЯТЬ УЧАСТИЕ В СТРОИТЕЛЬСТВЕ КВАРТИР НА УСЛОВИЯХ ДОЛЕВОГО УЧАСТИЯ, А ТАКЖЕ ОФИСНЫХ И АДМИНИСТРАТИВНО-ПРОИЗВОДСТВЕННЫХ ПОМЕЩЕНИЙ**
*по адресу: г. Вилейка, в центре жилого квартала на пересечении улиц Октябрьской, Водопьянова и Гагарина.*
Телефон для связи: (8-029) **133-44-87**

УНП 691396416

---

ПВХ балконные рамы входные и межкомнатные
**ОКНА ДВЕРИ**
ООО «Вторая оконная»
РАССРОЧКА И КРЕДИТ без первоначального взноса, оформление на дому
+375(33)330 28 88
+375(29)330 22 88

---

**МЕТАЛЛОЧЕРЕПИЦА** (РБ, РФ, Польша)
- Модульная металлочерепица, водостоки
- Профнастил, штакетник металлический
- Элитные окна ПВХ, мансардные окна
- Металлический сайдинг, 3D заборы
- Метробонд, гибкая черепица

Рассрочка 0%
www.vira.by Тел. (8-029) **65-777-15** (8-017) **348-13-78**
ООО «Амикс СтройГрупп» УНП 192930308

---

**Проектирование Строительство**
Газопровод • Отопление
Водопровод • Вентиляция
Канализация
Алмазное бурение
Проколы под дорогой
**АРЕНДА МИНИ-ЭКСКАВАТОРА**
Велком (8-029) **911-56-05**
МТС (8-029) **861-69-05**
ЧУП «ТГВСтрой» УНП 692024702

---

- **АРМАТУРА**
- **ТРУБЫ**
- **МЕТАЛЛОПРОКАТ**
- **ПРОФНАСТИЛ**

РЕЗКА, ДОСТАВКА
*Аренда автокрана*
г.Молодечно, ул. Рабочая, 8а/1
(8-0176) **58-04-76, 50-56-53**
(8-029) **196-90-53 (-23), (-43)**
ООО «Молметаллоконтракт» УНП 691398156

---

ООО «Вторая оконная» УНП 692023471
мастер ok
**САЙДИНГ И КРЫШИ**
Монтаж любой сложности
Любые расцветки
Утепление домов
РАССРОЧКА И КРЕДИТ без первоначального взноса
+375(33)330 28 88
+375(29)330 22 88

---

Окна • Двери • Рамы
**ПВХ ОТКОСЫ**
**ДВЕРИ** металлические межкомнатные
**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ**
Скидки • Рассрочка
Гарантия
**Большой ассортимент продукции**
Тел. (8-029) **765-78-31**
(8-044) **773-86-22**
ИП Шмелёв И.Н. УНП 692027451

---

**Окна и двери из ПВХ и алюминия**
- собственное производство
- опыт работы 11 лет
- минимальные сроки изготовления
- форма оплаты любая
- рассрочка до 24 месяцев

(8-029) **363-91-91**
(8-033) **364-91-91**
Окна РосБел – залог вашего спокойствия и уюта
ООО «ОкноградРосбел» УНП 691501753

---

**УТЕПЛЕНИЕ ДОМОВ**
заполнение воздушных зазоров наружных стен здания карбамидным **ПЕНОПЛАСТОМ МАРКИ ПЕНОТЕК-НГ**
**СНИЖЕНИЕ ПОТЕРЬ ТЕПЛА ДО 40%**
penotek-ng.by
(8-029) **127-04-25**
(8-029) **563-28-40**
ИП Грищенков И.Н. УНП 191574779

---

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ любой сложности**
Большой опыт • Работа с пылесосом
(8-033) **6706666** (8-033) **9331933**
ИП Малько А.Н. УНП 692026230

---

**ВОКНЫ**
танна
ад вытворцы
Тэл. (8-029) **394-64-99**
(8-029) **763-00-32**
ТДА «Белокно» УНП 690536156

---

**НАТЯЖНЫЕ ПОТОЛКИ**
на любой вкус
Тел. (8-029) **394-64-99**
(8-029) **763-00-32**
ОДО «Белокно» УНП 690536156

---

**Рэклама ў «РГ»**
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**

---

Арганізацыі патрабуецца
**СЛЕСАР-ІНСТРУМЕНТАЛЬШЧЫК**
Магчымае навучанне
*Зарплата па выніках субяседавання*
Тэл. (8-029) **640-50-20**
ПВГУП «АДМ про» УНП 691395619

---

Приглашаем на работу
**УБОРЩИЦ И МОЙЩИКОВ ПОСУДЫ (женщины)**
**с бесплатным проживанием в Минске**
*Вахтовый метод • З/п от 570 руб.*
Тел. (8-044) **530-27-91**
(8-044) **530-28-17**
(8-017) **388-28-38**
ЧУП по оказанию услуг «Юмакс групп» УНП 192621270

---

В строительную организацию в Вилейке требуется
**НАЧАЛЬНИК СНАБЖЕНИЯ**
Тел. (8-029) **380-71-67**
ООО «Аналог-Строй» УНП 691396416

---

Организации из Молодечно
требуется
**СЛЕСАРЬ-ИНСТРУМЕНТАЛЬЩИК**
**(можно пенсионного возраста)**
*Возможна работа по совместительству*
Тел. (8-029) **642-74-97**
(8-033) **365-41-18**
ООО «Кадеми-Спорт» УНП 690600875

---

Организации ООО «Точка опоры» **требуются:**
- **СЛЕСАРЬ-СБОРЩИК**
- **СЛЕСАРЬ МСР. МЕТАЛЛООБРАБОТКА**

Все вопросы по телефону (8-029) **333-0000**
УНП 690387150

---

Цэнтру падрыхтоўкі, павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі рабочых упраўлення па сельскай гаспадарцы і харчаванню Маладзечанскага райвыканкама на пастаянную работу патрабуецца
**МАЙСТАР ВЫТВОРЧАГА НАВУЧАННЯ (ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ)**
Тэл. (8-0176) **50-57-90**
УНП 600078296

---

Филиал ПУ «Молодечногаз» НАПОМИНАЕТ:

**ОТКРОЙТЕ ДВЕРЬ ГАЗОВИКУ**
**для технического обслуживания газового оборудования**

ОБСЛУЖИВАНИЕ РЕМОНТ газового оборудования
molgaz@tut.by 55-26-95 55-26-81 3334204
МИНСК ОБЛ ГАЗ

ГПО «БЕЛТОПГАЗ» Минск обл ГАЗ

***Сотрудники филиала ПУ «Молодечногаз» одеты в фирменную одежду синего цвета с логотипом организации, при себе имеют удостоверение установленного образца***

**ВАША БЕЗОПАСНОСТЬ – НАША РАБОТА!**

Уважаемые абоненты!
В целях исключения случаев посещения домовладений посторонними лицами, **ТРЕБУЙТЕ предъявить УДОСТОВЕРЕНИЕ личности работника филиала ПУ «Молодечногаз».**

Будьте бдительны, чтобы не пострадать от действий мошенников

**Телефон аварийной газовой службы – 104**

УНП 100008077

# Анхела

**Я некалькі тыдняў змагалася з задумай гэтай калонкі, адцягвала, пачынала пісаць і выдаляла ўсё, бо мае тлумачэнні і прыклады выглядалі банальнымі ці недарэчнымі. А сёння, нарэшце, зразумела, чаму: пытанне першапачаткова зададзенае крыва. Альбо, дакладней, навыварат. Паспрабую напісаць, чаму.**

# «Чаму не хочаш сваіх дзяцей?»

**Калі вы, дарагія чытачы, не першы дзень сочыце за тым, кім я ёсць (напрыклад, чаму вывучыла беларускую мову, чаму пачала пісаць вершы і іншыя тэксты па-беларуску і чаму пайшла ў аспірантуру па беларускай філалогіі), то вы, напэўна, ужо ведаеце, што я чалавек, як мінімум, нетыповы.**



Фота diethylstilbestrol.co.uk.

Паштоўка часоў віктарыянскай эпохі.

Сумна, але адно валоданне беларускай мовай пра гэта сведчыць, хоць я ведаю яшчэ які тузін моў, якія не выклікаюць такога здзіўлення сярод іх носьбітаў.

Але маем, што маем, і ведаем сваю сітуацыю. Збіваюся з тэмы. У любым выпадку, мая беларуская мова, мая творчасць і, канешне, мая дысертацыя з'яўляюцца аб'ектам безлічы пытанняў, якія паўтараюцца па чарзе:

«Анхела, а чаму ты вывучыла беларускую мову?», «Не, але чаму менавіта беларускую? Чаму ты яе выбрала?», «А калі ты пачала вершы пісаць?», «У якім узросце друкавалася ўпершыню?», «Ці заўжды пішаш толькі па-беларуску?», «А навошта табе аспірантура па філалогіі?», «Чаму пішаш дысер пра беларускую літаратуру XIX стагоддзя?».

Ведаеце, гэтыя пытанні стамляюць мяне (сілай паўтору) і, часам, у залежнасці ад тону суразмоўцаў, нават злуюць. Але я адчуваю, што ў стане на іх адэкватна адказаць. Ёсць прычыны, чаму пачала вывучаць беларускую мову. Быў момант, калі вырашыла напісаць свой першы верш на беларускай мове. Натуральна, я мэтанакіравана пайшла ў аспірантуру і мела нейкія планы ў галаве. На гэтыя пытанні адказваць не цяжка, бо яны зададзеныя ў станоўчым ключы: «Чаму ты хочаш/робіш/плануеш Х?»

А цяпер пяройдзем да тэмы сённяшняй калонкі. Я жанчына, мне пад 30 (прабачце), і я не нараджала дзяцей. Пару гадоў таму беларускія знаёмыя пачалі хвалявацца за мой дабрабыт і задаваць пытанне «калі». Ну і беларусы, іспанцы і людзі ўсіх магчымых нацыянальнасцяў кажуць такія рэчы, як «вось калі ў цябе будуць свае дзеткі», «вось станеш мамай і пабачыш», «нарадзіш – зразумееш». Ну, вы таксама чулі такое?

**А ёсць такі момант: я не хачу сваіх дзяцей. Калі я тлумачу сябрам і знаёмым, што дзеці не ў маіх планах, то задаюць усе адно пытанне: «А чаму ты не хочаш дзяцей?»**

Вось гэта пытанне, можна сказаць, задала рэдакцыя «РГ»: «А напішы артыкул пра чайлдфры, пра тое, чаму ты не хочаш дзяцей, як успрымаюць, і г. д.». Дык пачну ад успрымання. Успрымаецца гэта чамусьці даволі кепска: некаторыя адмаўляюць рэчаіснасць («не, ну, пасталееш, захочаш, куды ж падзенешся»), альбо адмаўляюць мне ў праве вырашыць для сябе, хачу дзяцей ці не хачу («вось твой муж захоча дзяцей, ты яму ж народзіш, канешне»), альбо, што найгорш, успрымаюць маё нежаданне як асабістую крыўду («ну, а што ж такое дрэннае ў мацярынстве? У мяне трое дзяцей, а яны кветкі майго жыцця»). Нават тыя людзі, якія не ўспрымаюць гэту маю характарыстыку зусім адмоўна, моцна здзіўляюцца. І заўжды пытаюць: «А чаму не?»

Вось бачыце, чым пытанне крывое? Яно зададзенае на негатыве. Я магу адказаць на пытанне, чаму ты вывучыла беларускую мову, затое нашмат цяжэй знайсці адказ на пытанне, а чаму не вывучыла суахілі? Магу адказаць, чаму выбрала філалогію, але не магу вызначыць, чаму не стала інжынерам. Тое ж самае і з дзецьмі, дарэчы.

**Як вы сябе адчувалі б, калі б я вас, сябры, спытала, чаму не набываеце сабе слана на лецішча? Проста не хочаце і ўсё? А слончыкі такія мілыя, пагадзіцеся.**

Тут нешта падобнае: я выбіраю ў сваім жыцці тое, што робіць мяне шчаслівай і дае адчуванне самарэалізацыі. Гэта вывучэнне моў і літаратурная творчасць. Гэта музыка, навука і сяброўства. І так, гэта выкладанне і... Маленькія пляменнікі. Між іншым. Але нараджэнне ўласных дзяцей проста не знаходзіцца ў спісе маіх радасцяў, мараў і жаданняў. І я мяркую, што добрыя бацькі і маці – гэта тыя, хто вельмі хоча і вельмі чакае сваіх дзяцей і цалкам аддадзены мроі выхаваць іх, каб яны былі добрымі і, у меру магчымасцяў, шчаслівымі. Мяркую, было б нашмат цікавей спытаць у бацькоў, чаму яны прынялі рашэнне стварыць новыя жыцці, як яны спраўляюцца і як працэс ідзе. Вось гэта цікава і варта ўвагі.

З тае прычыны, калі пытанні і рэмаркі пачаліся, я не разумела іх сэнсу. Мяне не пытаюць ні пра што іншае з таго, чаго я не хачу рабіць. Пытаюць пра шлях, які я выбрала (што лагічна), але не пра мноства дарог, якія застануцца непазнанымі: жыцця не хапае на ўсё, і чалавек не можа бясконца думаць пра гіпатэтычныя «іншыя» жыцці і паралельныя сусветы.

**Пытанне ўсё ж паўтаралася ды паўтаралася, і таму я задумалася над прычынай гэтай з'явы і зразумела, што нараджэнне дзяцей успрымаецца як імператыў многімі людзьмі. Як абавязак альбо нават «натуральная частка жыцця». Усе гэта робяць, і ўсё. І трэба, каб усё як у людзей. А чаму?**

На справе, гэта вялікая адказнасць і важны выбар у жыцці чалавека. Калі рашэнні, якія ўплываюць толькі на ўласнае жыццё, яшчэ можна прымаць імпульсіўна (пайсці на нейкую вучобу ці не пайсці, альбо пераехаць у іншую краіну ці не пераехаць), мне здаецца, што трэба вельмі добра падумаць перад тым, як вырашыцца «прымусіць» новага чалавека да існавання з небыцця і займацца гэтым новым жыццём цягам самых складаных гадоў, калі дзіця цалкам залежыць ад дарослых.

**Паўтараю, захапляюся тымі, хто з гэтым спраўляецца.**

Я магла б прыдумаць тысячу і адну прычыну, чаму я не хачу нарадзіць (грошы там, час, страхі...), але ўсе прагучалі б, як адмазкі, бо актыўна можна хацець чагосьці, а не наадварот. Я проста не хачу. Цяпер я часта жартую з гэтага, кажу: «Чым меней у мяне сваіх дзяцей, тым больш падарункаў будзе ў маіх пляменнікаў». І маецца на ўвазе ў пляменнікаў па крыві і ў дзяцей блізкіх сяброў. Я, насамрэч, вельмі люблю дзяцей, калі на адносна кароткі прамежак часу. Магу імі займацца, спяваць ім, іграць на піяніна, тлумачыць розныя рэчы. Маёй старэйшай пляменніцы чатыры гады, і яна любіць танцаваць, пакуль я іграю на піяніна. Малодшы вельмі любіць, калі я хаваю твар за далонямі, знікаю з быцця і, бах! Вось тут і цётка! А ты паверыў!

Мае падарункі пляменнікам, спадзяюся, будуць розныя. Ёсць матэрыяльныя, канешне: вопратка, якой заўжды не хапае, дзеці ж растуць, цацкі. Ёсць нематэрыяльныя: мой час, мая музыка, мае аповеды.

**А яшчэ, спадзяюся, будзе станоўчы прыклад крыху альтэрнатыўнага жыццёвага шляху, які навучыць іх талерантнасці да чужога выбару.**

Анхела
ЭСПІНОСА РУІС
г. Малага (Іспанія)
паэтка,
магістр філалогіі
angeespi@ucm.es



## Беларусь 1

**6.10** «Існасць».

**6.35, 21.45** Х/ф **«СТРЕКОЗА»**.

**8.25** Кулинарная дипломатия.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Маршрут построен».

**9.50** «Здоровье».

**10.45** «Дача» [СТ].

**11.25** «Истории спасения».

**12.10** «Дело жизни. Возрождение». Хроникально-документальный телефильм.

**12.35** Т/с **«НЕРАСКРЫТЫЙ ТАЛАНТ»**.

**14.20** «Твое место на кухне».

**15.15** «Краіна».

**15.45** Т/с **«СВАТЫ 6»**.

**16.50** Х/ф **«ДОКТОР КОТОВ»**.

**21.00** «Панорама».

**1.35** «День спорта».

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА»**.

**8.40, 21.55** «Телебарометр».

**8.45** Х/ф **«ГУБКА БОБ»**.

**10.25** «Погоня за вкусом». Кулинарное трэвел-шоу.

**11.15** «Кто я?».

**11.35** «Копейка в копейку».

**12.10** «Камень, ножницы, бумага».

**12.45** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.

**13.40** «Свадебный размер». Реалити-шоу.

**14.45** Х/ф **«ПРЕДСТАВЬ СЕБЕ»**.

**16.30** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**18.15** Х/ф **«БРОСОК КОБРЫ»**.

**20.05** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА»**.

**22.00** «Спортлото 6 из 49», КЕНО.

**22.05** Х/ф **«МИССИЯ НЕВЫПОЛНИМА: ПРОТОКОЛ ФАНТОМ»**.

## Беларусь 3

**7.35** «Сіла веры».

**8.00, 14.40, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 15.00, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Жаніцьба Бальзамінава». Мастацкі фільм [СТ].

**10.00** «Жывая культура». Мясцовы песенны стыль выканання традыцыйных абрадавых і пазаабрадавых твораў аўтэнтычным фальклорным калектывам «Палескія напевы» (в.Новае Палессе, Лельчыцкі раён, Гомельская вобласць).

**10.20** «Беларуская кухня». Куханы.

**10.50** «Доўгі шлях у лабірынце». Мастацкі фільм [СТ].

**14.15** «Навукаманія».

**15.05** «Прапалыя сярод жывых». Мастацкі фільм.

**16.25** «Дзесяць фатаграфій». Юрый Антонаў.

**17.05** Канцэрт Юрыя Антонава.

**18.15** «Бяром усё на сябе». Мастацкі фільм.

**19.30** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць - літаратуразнавец, гісторык, палітолаг, дырэктар філіяла «Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы» Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Іван Саверчанка.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм [СТ].

**22.30** XXVIII Міжнародны фестываль мастацтваў «Славянскі базар у Віцебску». Залаты хіт.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** «Играй, гармонь любимая!».

**8.00** Премьера. «Юлия Меньшова. Я сама».

**9.10** Х/ф **«НЕ В ПАРНЯХ СЧАСТЬЕ»**.

**11.00** «Лев Лещенко. «Ты помнишь, плыли две звезды…».

**11.55** Концерт Льва Лещенко.

**13.40** «Лев Лещенко. «Ни минуты покоя».

**16.20** «Кто хочет стать миллионером» с Дмитрием Дибровым.

**17.50** «Сегодня вечером».

**20.00** «Наши новости». Субботний выпуск.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.10** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ»**.

**23.10** Премьера. Концерт «ВДНХ - 80 лет!».

## СТВ

**6.15** «Эликсир молодости».

**7.55** «Анфас».

**8.15** «Самая полезная программа».

**9.05** Документальный проект.

**10.00** «Минск и минчане».

**10.35** «Центральный регион».

**11.05, 13.40, 16.40, 20.05** Т/с **«ОДЕССА МАМА»**.

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**19.55** «СТВ спорт».

**21.30** Документальный спецпроект.

**0.25** «Скрытая угроза».

## Мир

**6.00, 6.25, 7.55** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**6.55** «Такие разные».

**7.20** «Секретные материалы».

**8.55** «Ой, мамочки!».

**9.25** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00, 19.00** Новости.

**10.15** «Как в ресторане».

**10.45** Х/ф **«ДАМЫ ПРИГЛАШАЮТ КАВАЛЕРОВ»**.

**12.20, 16.15** Т/с **«МИФ ОБ ИДЕАЛЬНОМ МУЖЧИНЕ»**.

**17.20, 19.15** Т/с **«ЗАПАСНОЙ ИНСТИНКТ»**.

**22.55** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС»**.

**1.15** Фестиваль Авторадио.

## НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».

**6.30** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**7.05, 23.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.35** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by».

**8.50** «Врачебные тайны плюс».

**9.25** «Города Беларуси».

**10.25** Главная дорога.

**11.10** «Еда живая и мёртвая».

**12.05** Квартирный вопрос.

**13.10** «Поедем, поедим!».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ»**.

**16.25** «Следствие вели…».

**19.20** Х/ф **«ИНКАССАТОРЫ»**.

**21.15** Х/ф **«МИРАЖ»**.

**22.50** Ты не поверишь!

**0.10** «Таинственная Россия».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** «Утро Беларуси».

**10.00** «Сто к одному».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Пятеро на одного».

**12.10** Х/ф **«ЖИЛА-БЫЛА ЛЮБОВЬ»**.

**14.00** «Смеяться разрешается».

**16.00** Х/ф **«ХОРОШИЙ ДЕНЬ»**.

**17.50, 20.30** Х/ф **«ПОЗОВИ, И Я ПРИДУ»**.

**19.45** «Плюс минус».

**22.00** Х/ф **«МИШЕЛЬ»**.

# кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 18.25** В гостях у Элис. **8.15** Крысиные Бега. **10.35** Мама. **12.25** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **14.10** Халк. **16.15** Игра Эндера. **20.10** Кон-Тики. **22.25** Девять ярдов. **0.15** Герцогиня. **2.15** Любовь с первого взгляда. **4.15** Назад в будущее III.

### TV1000 ACTION

**6.55** Голодный кролик атакует. **9.05** Ограбление казино. **10.50** Рэмбо: Первая кровь 2. **12.40** Терминатор: Да придёт спаситель. **14.55** Боксёр. **16.40** Воин. **19.15** Киллеры. **21.10** Азартные игры. **23.05** Заложник. **1.10** Пипец 2. **2.55** Линкольн для адвоката. **5.10** Без компромиссов.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Каникулы строгого режима. **8.35** Восьмёрка. **10.25** Завод. **12.40** На Дерибасовской хорошая погода, или на Брайтон-Бич опять идут дожди. **14.30** Бармен. **16.15** Танки. **18.00** Адмиралъ. **20.20** СуперБобровы. **22.05** За гранью реальности. **0.00** Любовь с ограничениями. **2.05** Орда. **4.30** Жених.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **11.00** Х/ф **«КАК ВЫЙТИ ЗАМУЖ. ИНСТРУКЦИЯ»**. **15.00** Х/ф **«КОЛДОВСТВО»**. **17.00** Х/ф **«ЭРАГОН»**. **19.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ЭВОЛЮЦИЯ»**. **21.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ВОССТАНИЕ ЛИКАНОВ»**. **22.45** Х/ф **«КРИК 4»**. **1.00** Х/ф **«КРИК 3»**. **3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. НЕВЕРНАЯ». 10.30, 18.30** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. КОНКУРЕНТЫ». 11.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ПОДОЗРЕВАЕМЫЕ». 11.30, 19.30, 2.20** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. БОГАТЫЙ ДЯДЮШКА». 12.00, 13.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 14.00, 15.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ». 20.00, 21.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 22.00, 23.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ». 3.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. СЛУЧАЙНОЕ СЛОВО». 3.20** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ДОРОГА К МОРЮ». 4.00, 5.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«БОЛЬШОЕ ЗЛО И МЕЛКИЕ ПАКОСТИ»**.

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.10** Х/ф **«ДРУЖБА И НИКАКОГО СЕКСА?». 3.15** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ПОНЕВОЛЕ». 5.00** Х/ф **«БАРХАТНЫЕ РУЧКИ». 7.00** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ». 8.50** Х/ф **«ТРЕЗВЫЙ ВОДИТЕЛЬ». 10.45** Х/ф **«ТАКСИ». 12.30** Х/ф **«ТАКСИ 2». 14.10** Х/ф **«ТАКСИ 3». 15.50** Х/ф **«ТАКСИ 4». 17.35** Х/ф **«ТАКСИ 5». 19.30** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ ОХОТЫ». 21.20** Х/ф **«ОСОБЕННОСТИ НАЦИОНАЛЬНОЙ РЫБАЛКИ». 23.20** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ»**.

### КИНОСЕРИЯ

**0.45** Чисто английские убийства. **1.30, 2.15** Тринадцатый. **3.05, 4.00, 5.00, 6.05, 7.15, 8.15** Жгучая месть. **9.25, 10.20, 11.15, 12.10, 13.05, 14.00, 14.55, 15.50, 16.50, 17.45, 18.40, 19.35, 20.30, 21.25, 22.20, 23.15** Принцип Хабарова.

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 4.15** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.40** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.10** Мультфильмы «ДОМОВЁНОК ПЛЮХ». **10.15** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.20** Х/ф **«ЭМОДЖИ ФИЛЬМ». 13.00** Travel-шоу «РУССО ТУРИСТО». **14.00** Шоу «ЗВЁЗДЫ РУЛЯТ». **14.55, 16.55, 18.55, 20.25, 22.40, 23.45** Прогноз погоды на неделю. **15.00** Т/с **«ПСИХОЛОГИНИ». 17.00** Х/ф **«БЫСТРЕЕ ПУЛИ». 19.00, 23.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **20.30** Х/ф **«ИНОПЛАНЕТНОЕ ВТОРЖЕНИЕ: БИТВА ЗА ЛОС-АНДЖЕЛЕС». 22.45** Юмористическое шоу «СЛАВА БОГУ, ТЫ ПРИШЁЛ!». **1.20** Скетч-шоу «МОСГОРСМЕХ». **2.40** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **5.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40** Теннис. WTA. Сан-Хосе. Вашингтон. 1/4 финала. **10.45** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Лондон. **12.50** Хоккей. Кубок Беларуси. Динамо-Молодечно – сборная Беларуси (U-18). **15.00** Большой спорт. **15.45, 19.30** Спорт-микс. **15.55** Легенды мирового спорта. **16.25** Фактор силы. **17.00** Смешанные единоборства. UFC. **19.45** Спорт-центр. **20.00** Теннис. WTA. Вашингтон. Сан-Хосе. Полуфиналы.

### EUROSPORT 1

**0.05, 0.35** Олимпийские игры. «Сила личности». **1.05, 4.00, 8.30, 12.00, 20.15** Снукер. Riga Masters. Финал. **2.35, 7.00, 15.00** Велоспорт. «Тур Валлонии». 5-й этап. **6.00, 14.00** Велоспорт. «Тур де Франс». Обзор. **9.30** Олимпийские игры. Flag and Family. **10.30** Фехтование. Чемпионат мира. Будапешт. Команды. **16.30** Велоспорт. Классика. Сан-Себастьяна. **18.30** Watts. Топ-10. **19.00, 21.00** Велоспорт. «Тур Польши». 1-й этап. **22.00** Конный спорт. Global Champions Tour. **23.40** Велоспорт. Классика. Лондон. Женщины.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Машины с того света. **7.30, 9.45, 11.50, 14.55, 17.45, 22.25, 0.05, 3.05** Итоговые новости. **7.45** 9 злобных водителей. **8.15, 0.20** Тест на «Драйве». **8.45, 0.45** Комплектация. Эксклюзив. **9.15** Сити тестер. **10.00** Советы юриста. **10.45, 2.00** Это Родина твоя. **11.10** Вечер с Пикуленко. **12.05** Квадроциклы. **14.25, 15.10, 17.55** Мото тест-драйв. **19.30** АВТОбиография. **20.25, 23.25, 4.05** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **20.50, 23.50, 4.30** Легенды автопрома. **21.05, 4.45** В поисках мотоприключений. **21.40, 5.15** Теория полного привода. **22.10** Авто: вторые руки. **22.40, 3.20** Металлоломщики. **1.10** Тайный покупатель. **1.25** Назад в СССР. **2.25** Все включено. **2.40** Народный тест драйв. **5.45** Дома на колесах.

### EXPLORE

**6.05, 6.50, 7.40, 8.30** Переделка старья. **9.15, 10.05, 10.50, 11.35, 12.25, 13.10** Австралийские золотоискатели. **13.55, 14.45** Австралийские охотники на лобстеров. **15.35, 16.20** Поисковая команда в Австралии. **17.05, 17.55** Адские грузовики. **18.45, 19.15** Грузовые войны: Великобритания. **19.40, 20.30, 3.15, 4.05** Чудовищный карп. **21.20, 22.10** Деревенский дом. **23.00, 23.50** Рэй Донован. **0.55, 1.20, 1.45** Гараж: Последний приют. **2.15** Танковый биатлон. **5.00** Большое рыболовное состязание.

### HISTORY

**6.05, 6.30, 7.55, 4.40, 5.10** Невероятные изобретения. **7.00** Тайны британских замков. **8.35, 9.20, 3.15, 3.55, 5.35** Музейные тайны. **10.10** Охота за сокровищами нацистов. **11.05, 12.05** Тайная война. **13.05** Тридцатилетняя война - Железный век. **14.10** Николай и Александра: последние монархи России. **15.05** Могилы викингов. **16.00** Боевые корабли. **16.50** Война царственных родственников. **18.00, 19.00** Взрывная Земля. **20.00** Частная жизнь. **20.55** История без прикрас. **21.55** Лучшие убийцы древних времён. **22.45** Мифические существа. **23.40** Машины смерти. **0.40** Оружейники: искусство войны. **1.30, 2.25** Загадочные убийства: царственные особы.

### NATURE

**6.00, 6.25, 6.55, 7.25, 7.50** 100 самых популярных пород собак. **8.20, 9.25** 10 щенков и все остальные. **10.30, 5.35** Лучшие друзья собаки. **11.00, 11.50, 12.45, 13.35, 14.30, 15.20** Ветеринар на холме. **16.15, 17.05, 17.55, 18.45** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **19.35, 20.25, 21.25** Удивительное семейство псовых. **22.20, 22.50, 23.25, 23.55, 0.25, 0.50** Природа в кадре. **1.20, 2.15, 3.05** Суперветеринар. **3.55, 4.45** Тайная жизнь зоопарка.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 10.25, 5.10** Научные глупости. **6.25** Чудеса инженерии. **7.15** Сила племени. **8.05, 11.55** Суперкар со свалки. **8.50, 9.40** Золото в холодной воде. **12.40, 13.30** Дикий тунец. **14.15, 15.05, 2.45, 3.30** Расследования авиакатастроф. **15.50** Враждебная планета. **16.40** Опасные путешествия. **17.25** Майкл Пэйлин в Северной Корее. **19.00, 22.05** Последние шаги Гитлера. **19.45** Национальные праздники. **20.30** Осушить океан: Без следа. **21.15** Осушить океаны: Побег с Алькатраса. **22.50** Король, обманувший Гитлера. **23.35, 0.20** Секретные материалы древности. **1.10** Злоключения за границей: Преступление и наказание. **4.20** Неизвестная планета земля. **5.35** Код опасности.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.35** Какая дичь! **6.15, 22.50** Охота в Новом Свете. **6.40, 23.50** Профессиональная рыболовная лига 2018. **6.55, 11.55, 18.15** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 12.45, 0.55** Природа мужской кухни с Сержем Марковичем. **8.00, 19.30** Пофестивалим! **8.30** Энциклопедия рыбалки. **9.00** На рыбалку с охотой. **9.35** Горная охота на пиренейскую серну. **9.55, 21.30** Стрелковый спорт. **10.10, 21.50** Охотничьи собаки. **10.40, 22.15** Кодекс охотника. **10.55, 17.45, 1.05, 5.05** Загадки толстолобика. **11.25, 19.05, 1.35, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.00** Фишермания. **13.30** Рыбалка 360. **14.00** Рыбалка в России. **14.30, 2.05** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **15.00, 2.30** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **15.25, 20.30, 2.55** Рыбалка сегодня XL. **15.55, 3.20** Горная охота на тяньшанского архара. **16.25, 3.50** Карпфишинг. **17.00, 4.20** Рыболовы. **20.00** Поймать лосося. **21.00** Горная охота на колымского снежного барана. **23.20** Секреты «трудных» водоемов. **0.05** Смертельный улов.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.05, 18.10, 22.15, 2.15** Дома на деревьях (сезон 4). **6.45, 10.50, 14.55, 18.55, 23.05, 3.00** Квас. **7.00, 11.05, 15.10, 19.15, 23.20, 3.15** Огород от-кутюр. **7.30, 11.35, 15.35, 23.50, 3.40** У мангала. **8.00, 12.05, 16.10, 20.15, 0.20, 4.10** Хозяин. **8.30, 12.35, 16.35, 20.45, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.45, 16.50, 21.00, 1.05, 4.50** Тихая моя родина. **9.20, 13.20, 17.25, 1.35, 5.20** Флористика. **9.35, 17.40, 21.45, 1.50, 5.35** Фитоаптека. **12.50** Дачная энциклопедия. **13.35** Лавки чудес. **19.40** Урожай на столе. **21.30** Полное лукошко.

## Беларусь 1

**6.20** Х/ф **«СТРЕКОЗА».**

**8.20** «Клуб редакторов».

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Т/с **«СВАТЫ 6».**

**10.50** «На вылет!». Развлекательно-интеллектуальное шоу.

**11.40** «Наши».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Т/с **«НЕРАСКРЫТЫЙ ТАЛАНТ».**

**14.25** «Твое место на кухне».

**15.15** «Твой город».

**15.30** «Вокруг планеты».

**16.20** Хроникально-документальный телефильм АТН.

**16.50** Х/ф **«ТЕНЬ ЛЮБВИ».**

**20.40** Навіны надвор'я.

**21.00** «Главный эфир».

**22.10** Х/ф **«ДОКТОР КОТОВ».**

## Беларусь 2

**7.00** Т/с **«ПИНГВИНЫ ИЗ МАДАГАСКАРА».**

**8.40, 19.55** «Телебарометр».

**8.45** Т/с **«ЧЕРЕПАШКИ-НИНДЗЯ».**

**9.40** Премьера. «Орел и Решка. Перезагрузка». Трэвел-шоу.

**10.30** «ЖаннаПожени». Реалити-шоу.

**11.25** Х/ф **«ЖЕЛЕЗНАЯ ХВАТКА».**

**13.15** Х/ф **«БРОСОК КОБРЫ».**

**15.10** «Когда мы дома». Скетчком.

**16.10** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.50** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.30** «Обмен женами». Реалити-шоу.

**22.00** «Спортлото 5 из 36», КЕНО.

**22.05** «Рок за Бобров». Концерт.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.45, 20.15** Навіны культуры.

**8.20, 20.35** «Гэты дзень».

**8.25** «Пунсовыя ветразі». Мастацкі фільм [СТ].

**9.50** «Наперад у мінулае».

**10.20** «Беларуская кухня». Кнэдлікі.

**10.45** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.35** «Бяром усё на сябе». Мастацкі фільм.

**12.50** «Майстры і куміры». Заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Тамара Пячынская.

**14.00** «Жаніцьба Бальзамінава». Мастацкі фільм [СТ].

**15.30** «Дзесяць фатаграфій». Юрый Антонаў.

**16.10** «Доўгі шлях у лабірынце». Мастацкі фільм [СТ].

**19.35** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**20.00** «Архітэктура Беларусі».

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Прапалыя сярод жывых». Мастацкі фільм.

**22.30** В.Кузняцоў. «Анастасія». Балет Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** «Наши новости».

**7.10** Мультфильмы «Машины сказки».

**7.45** Премьера. Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**8.40** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.10** «Воскресная проповедь».

**9.25** «Наталья Кустинская. Красота как проклятье».

**10.25** Х/ф **«ТРИ ПЛЮС ДВА».**

**12.15** «Видели видео?».

**13.05** Х/ф **«СЮРПРИЗ ДЛЯ ЛЮБИМОГО».**

**15.00** «Точь-в-точь».

**16.20** «Точь-в-точь» Продолжение.

**18.20** «Эксклюзив» с Дмитрием Борисовым.

**20.00** «Контуры».

**21.05** ОНТ представляет: «Профессиональная среда».

**21.25** Т/с **«НАУЧИ МЕНЯ ЖИТЬ».**

**23.25** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.45** «КВН». Премьер-лига.

## СТВ

**6.05** «Эликсир молодости».

**7.45, 11.00, 20.35** Документальный спецпроект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ОТДЕЛ С.С.С.Р.».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**0.25** «Соль: Легенды мировой музыки». «Metallica - Francais Pour Une Nuit».

## Мир

**6.00, 6.25, 7.45** Мультфильмы.

**6.15** «Миллион вопросов о природе».

**7.10** «Охота на работу».

**8.20** «Еще дешевле».

**8.50** «Всемирные игры разума».

**9.25, 3.40** «Наше кино. История большой любви».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.15, 16.15** Т/с **«ЦВЕТ ЧЕРЕМУХИ».**

**2.15** Х/ф **«ДЕВУШКА С ХАРАКТЕРОМ».**

**4.05** Т/с **«МИФ ОБ ИДЕАЛЬНОМ МУЖЧИНЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.20** «Астропрогноз».

**6.25** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**7.00, 23.25** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Домиевой.

**7.30** «Готовим с Алексеем Зиминым».

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.40** «Устами младенца».

**9.15** «Кто в доме хозяин?».

**10.25** «Первая передача».

**11.05** «Чудо техники».

**12.00** «Дачный ответ».

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«МЕНТОВСКИЕ ВОЙНЫ».**

**16.20** «Следствие вели…».

**19.40** Х/ф **«ИНКАССАТОРЫ».**

**21.35** Х/ф **«СТАЯ».**

**23.55** «Таинственная Россия».

## Беларусь РТР

**7.00** Х/ф **«МИШЕЛЬ».**

**10.30** «Смехопанорама».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.15** «Утренняя почта».

**13.00** «Когда все дома с Тимуром Кизяковым».

**14.00** ПРЕМЬЕРА. «Панацея по контракту». Расследование Аркадия Мамонтова.

**15.00, 21.45** Т/с **«ТОЧКА КИПЕНИЯ».**

**23.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**6.10, 17.55** 47 ронинов. **8.45** Девять ярдов. **11.00** Герцогиня. **13.20** Кон-Тики. **15.45** Назад в будущее III. **20.10** Спеши любить. **22.00** Миллион для чайников. **23.50** Ужин. **2.00** Дориан Грей. **4.00** Ромео и Джульетта.

### TV1000 ACTION

**7.10** Азартные игры. **9.25** Киллеры. **11.15** Заложник. **13.20** Без компромиссов. **15.10** Пипец 2. **17.05** Линкольн для адвоката. **19.15** Турист. **21.10** Уцелевший. **23.25** Запретная зона. **1.05** Рекрут. **3.00** Безбашенные. **5.10** Клин клином.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** СуперБобровы. **8.10** За гранью реальности. **10.10** Я любить тебя буду, можно? **11.15** Вертикаль. **12.45** Любовь с ограничениями. **14.40** Адмиралъ. **17.00** Жених. **18.45** Временные трудности. **20.20** СуперБобровы. Народные мстители. **22.00** Призрак. **0.00** Как Витька Чеснок вёз Лёху Штыря в дом инвалидов. **1.45** Любовь прет-а-порте. **3.20** Про жену, мечту и еще одну... **4.50** Внук космонавта.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 11.00, 12.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 12.45** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР». 15.15** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ЭВОЛЮЦИЯ». 17.15** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ВОССТАНИЕ ЛИКАНОВ». 19.00** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ПРОБУЖДЕНИЕ». 20.45** Х/ф **«ДРУГОЙ МИР: ВОЙНЫ КРОВИ». 22.30** Х/ф **«КОЛДОВСТВО». 0.30** Х/ф **«КРИК 4». 2.45, 3.15, 3.45, 4.15, 4.45, 5.15, 5.45** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 16.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 10.00, 18.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ПОДОЗРЕВАЕМЫЕ». 10.30, 18.30** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. БОГАТЫЙ ДЯДЮШКА». 11.00, 19.00, 2.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. СЛУЧАЙНОЕ СЛОВО». 11.30, 19.30, 2.20** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ДОРОГА К МОРЮ». 12.00, 13.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 14.00, 15.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ». 20.00, 21.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 22.00, 23.00** Т/с **«РАЗВОД И ДЕВИЧЬЯ ФАМИЛИЯ». 3.00** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ЖЕНИХ И НЕВЕСТА». 3.20** Т/с **«ДЕТЕКТИВЫ. ЧТО НАПИСАНО ПЕРОМ». 4.00, 5.00** Т/с **«ГРОМОВЫ. ДОМ НАДЕЖДЫ». 6.00, 7.00** Т/с **«МОЙ ЛИЧНЫЙ ВРАГ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.00** Х/ф **«ПРИШЕЛЬЦЫ 2: КОРИДОРЫ ВРЕМЕНИ». 2.55** Х/ф **«ВЕЛИКОЛЕПНАЯ». 4.35** Х/ф **«МУЖЧИНА С ГАРАНТИЕЙ». 6.15** Х/ф **«ДРУЖБА И НИКАКОГО СЕКСА?». 8.05** Х/ф **«БАНДИТКИ». 9.50** Х/ф **«ЛЮБОВНЫЙ ЭЛИКСИР №9». 11.45** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2». 13.45** Х/ф **«ЗАКОНЫ ПРИВЛЕКАТЕЛЬНОСТИ». 15.30** Х/ф **«СБЕЖАВШАЯ НЕВЕСТА». 17.45** Х/ф **«АФЕРИСТЫ ДИК И ДЖЕЙН». 19.30** Х/ф **«ВЕЗУЧИЙ СЛУЧАЙ». 21.15** Х/ф **«БАБЛО». 23.05** Х/ф **«ЧЕТВЕРО ПРОТИВ БАНКА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.10, 2.15, 3.05, 4.00, 5.35, 6.35, 7.40, 8.45, 9.45, 10.50, 11.55** Городские шпионы. **13.00, 14.00, 14.55, 15.55, 16.55, 17.55, 18.55, 19.55** Гетеры майора Соколова. **20.55, 21.55, 22.55, 23.50** Жизнь только начинается.

### ВТВ

**6.00, 6.55, 8.15, 9.15, 11.10, 12.15, 12.55, 13.55, 15.55, 18.15, 19.50, 21.20, 23.20, 0.00** Прогноз погоды на неделю. **6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.00** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **8.20, 3.55** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **9.20** Мультфильмы «РАЗВЛЕЧЁБА». **9.40** Мультфильмы «ТИМОН И ПУМБА». **10.10** Скетч-шоу «ОСТОРОЖНО: ДЕТИ!». **11.15** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.20, 2.35** Кулинарное-шоу «ПРОСТО КУХНЯ». **13.00, 3.05** Make-over шоу «РОГОВ. СТУДИЯ 24». **14.00** Т/с **«ПСИХОЛОГИНИ». 16.00** Х/ф **«РОБОТ ПО ИМЕНИ ЧАППИ». 18.20** Х/ф **«ЗАМБЕЗИЯ». 19.55** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **21.25** Х/ф **«ТУРИСТ». 23.25** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **0.05** Т/с **«ЛОНДОНГРАД». 1.00** «ХОЧУ ВЕРИТЬ!» с Борисом Корчевниковым. **4.45** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.55** Хоккей. Кубок Беларуси. Динамо-Молодечно – сборная Беларуси (U-18). **8.45** Теннис. WTA. Вашингтон. Сан-Хосе. Полуфиналы. **12.55, 20.05** Спорт-микс. **13.05** Легкая атлетика. Бриллиантовая лига. Лондон. **15.10** Смешанные единоборства. UFC. **18.00** Чемпионат мира по водным видам спорта. **20.15** Питстоп. **20.45** Спорт-центр. **21.00** Теннис. WTA. Вашингтон. Финал. **23.05** Легенды мирового спорта. **23.35** Фактор силы.

### EUROSPORT 1

**0.30, 7.30, 18.05** Велоспорт. «Тур Польши». 1-й этап. **1.30, 5.00, 20.20** Watts. Топ-10. **2.00, 2.30, 20.30** Олимпийские игры. «Сила личности». **3.00, 5.30** Снукер. Riga Masters. Финал. **4.00, 23.00** Велоспорт. Классика. Сан-Себастьяна. **8.25, 12.00, 14.00, 17.00, 21.05** Снукер. International Championship. Китай. Первый день. **12.55** Автогонки. Суперкубок Porsche. Будапешт. **19.00** Велоспорт. «Тур Польши». 2-й этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Трасса А2. **7.35, 10.30, 13.40, 16.40, 19.25, 23.50, 1.35, 3.45** Итоговые новости. **7.50** Народный тест драйв. **8.20, 0.20, 1.50** Назад в СССР. **10.00, 18.20** Испытание на прочность. **10.45, 19.40, 22.30** АВТОбиография. **11.35, 20.30, 23.20, 4.00** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **12.05, 21.00, 0.05, 4.30** Легенды автопрома. **12.15, 13.55, 16.55** Сравнительный тест. **21.15, 4.45** В поисках мотоприключений. **21.45, 5.15** Теория полного привода. **22.15, 5.45** Авто: вторые руки. **0.50** Сити тестер. **1.20** Вторичка. **2.20** Вечер с Пикуленко. **3.00** Металоломщики.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35** Речные чудовища. **9.25, 9.50, 10.15, 10.35** Путешествие по паркам. **11.00, 11.50, 12.40, 13.30, 14.20, 15.10** Выживание в лесу. **16.00, 16.45** Деревенский дом. **17.30, 17.55, 18.15** Гараж: Последний приют. **18.45, 19.30** Надсмотрщик. **20.20, 21.10** Переделка старья. **21.55, 22.45, 23.30, 0.15, 1.05** Австралийские золотоискатели. **1.50, 2.35** Поисковая команда в Австралии. **3.20, 4.05, 4.55** Лесные люди. **5.35** Битва за карпов.

### HISTORY

**6.20, 7.50, 5.10** Невероятные изобретения. **7.00** Тайны британских замков. **8.15, 9.00, 3.45, 4.30, 5.40** Музейные тайны. **9.50** Наполеон: Египетская кампания. **10.55, 11.50** Взрывная Земля. **12.50, 13.55** Моя жизнь в гитлеровской Германии. **14.55** Гинденбург и Гитлер. **16.00** Олимпийская мечта: нацистские игры 1936. **17.00** Женщины Третьего Рейха. **18.00, 19.05** Вторая мировая в цвете. **20.05** Смертоносный интеллект. **20.55** Падение империи. **21.50** День, когда умер Гитлер. **23.00, 0.00** Тайная война. **1.00** Джеки без Джека. **2.00, 2.55** Загадочные убийства: царственные особы.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.30** Секретная жизнь собак. **9.20, 10.15, 11.10** Удивительное семейство псовых. **12.05, 12.55, 13.45** Дикие Филиппины с Найджелом Марвеном. **14.35, 15.30, 16.25, 17.20** Галапагосы. **18.15, 19.10, 21.00** Большой барьерный риф с Дэвидом Аттенборо. **20.00** Волшебная страна Оз. **21.55** Загадка полярного сияния. **22.50, 23.40, 0.30** Приключения китов с Найджелом Марвеном. **1.20, 2.10, 3.00** Суперветеринар. **3.50, 4.40** Тайная жизнь зоопарка. **5.30** Новорожденные в зоопарке.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 10.20, 5.10** Научные глупости. **6.25** Чудеса инженерии. **7.15** Сила племени. **8.05, 11.55** Суперкар со свалки. **8.50** Национальные праздники. **9.35** Золото в холодной воде. **12.40, 13.25** Дикий тунец. **14.15, 15.05** Дневники круизного лайнера. **15.55** Внутри невероятной механики. **16.40** Гибель викингов. **17.25** Затерянный континент Тихого океана. **18.15, 3.30** Строительство тоннеля. **19.00, 22.05, 2.40** Осушить океан. **19.45, 1.10, 1.55** Инстинкт выживания. **20.35** Майкл Пэйлин в Северной Корее. **22.55** Служба безопасности аэропорта: Перу. **4.20** Неизвестная планета земля. **5.35** Код опасности.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.45** Фишермания. **6.25, 23.15** Рыбалка 360. **6.55, 12.15, 18.10, 0.25** Экстремальная рыбалка с Робсоном Грином. **7.45, 1.10** Природа мужской кухни с Сержем Марковичем. **8.00, 19.45** Рыбалка в Нижнем Прикамье. **8.25, 20.10** На охотничьей тропе с Сергеем Астаховым. **8.55, 15.40, 20.40, 3.10** Рыбалка сегодня XL. **9.25** Горная охота на тяньшанского архара. **9.55, 21.40** Карпфишинг. **10.30** Рыболовы. **11.15, 17.35, 1.25, 5.05** Загадки толстолобика. **11.45, 19.15, 1.50, 5.35** Кулинарное путешествие с Сержем Марковичем. **13.00** Какая дичь! **13.20** Охота в Новом Свете. **13.50** Секреты «трудных» водоемов. **14.20** Профессиональная рыболовная лига 2018. **14.35, 2.20** Пофестивалим! **15.05** На рыбалку с охотой. **16.05, 3.40** Горная охота на колымского снежного барана. **16.40, 4.10** Стрелковый спорт. **16.55, 4.20** Охотничьи собаки. **17.20, 4.50** Кодекс охотника. **19.00** Рецепты старого Тифлиса. **21.10** Горная охота на корякского и чукотского снежного барана. **22.10** Водоемы России. Рыбинское водохранилище. **23.40** Рыбалка в России. **0.10** Простые рецепты. **2.45** Поймать лосося.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.00, 14.05, 18.10, 22.20, 2.10** Дома на деревьях (сезон 4). **6.45, 10.50, 14.55, 19.00, 23.05, 2.55** Квас. **7.00, 11.05, 15.10, 19.15, 23.25, 3.10** Огород от-кутюр. **7.30, 11.35, 23.50** У мангала. **8.00, 12.05, 16.10, 20.20, 0.20, 4.10** Хозяин. **8.30, 12.35, 16.40, 20.45, 0.50, 4.35** Сельсовет. **8.45, 12.50, 16.55, 21.00, 1.05, 4.50** Тихая моя родина. **9.20, 13.20, 1.30** Флористика. **9.35, 13.40, 17.45, 21.50, 1.45, 5.35** Фитоаптека. **15.40, 19.45, 3.40** Урожай на столе. **17.30, 21.35, 5.20** Полное лукошко.

# Ляплёнка і драўляны будынак лебедзеўскага роду Посахаў

МАЛАДЗЕЧНА

**На фотаздымку мы бачым ляплёнку – дом з гліны, які калісьці належаў карэннаму жыхару мястэчка Лебедзева Максіму Фёдаравічу Посаху.**



Дом Посахаў у Лебедзеве.

Пабудаваў ён яго прыкладна ў пачатку 1930-х гадоў у часы Польшчы. У аснове пабудовы каркас старога дома. Першапачаткова ляплёнка ўяўляла сабой «жывую» гліну і мела буравaты колер. Летам ад сонечнага святла колер будынка станавіўся больш светлым. Гліняны матэрыял вабіў да сябе пчол, якія рабілі ў сценах ляплёнкі гнёзды. Звонку пчаліныя гнёзды нагадвалі адтуліны з невялікімі рыхлымі выступамі. Наяўнасць у сценах дома пчаліных гнёздаў стварала для сям'і дыскамфорт, нягледзячы на тое, што працавітыя насякомыя паводзілі сябе мірна.

## Першыя гаспадары

Першы гаспадар будынка Максім Фёдаравіч, узвёўшы яго для сваёй сям'і, у хуткім часе памёр. Са слоў сваяка Посахаў Фёдара Ігнацьевіча Семашкевіча (1929 – 2019), Максім Фёдаравіч падарваў здароўе цяжкай працай у час будоўлі, і ад гэтага памёр.

Пасля вайны, калі дастатак сям'і вырас, сын Посаха Уладзімір Максімавіч (1921 – 2009) надаў будынку больш прывабны выгляд. Спачатку атынкаваў яго, а потым пабяліў. У такім выглядзе дом захаваўся да сёння.

Бацька Максіма, Фёдар Посах, быў заможным гаспадаром. У савецкія часы такіх людзей звалі кулакамі. Фёдар меў вятрак (ветраны млын), манежную (стацыянарную) малатарню і на той час вялікі сад. Гэту буйную гаспадарку атрымаў у спадчыну ад бацькі Якуба.

Якуб нарадзіўся ў пачатку 19 стагоддзя. Менавіта пры ім Посахі набылі малатарню і вятрак.

**Як мяркуюць старажылы, у Лебедзеве першыя ветракі з'явіліся пасля вайны Францыі і Расіі.**

У мястэчку ў канцы 1812 года, пасля адступлення французаў, некалькі гадоў жыў галандзец, які быў удзельнікам напалеонаўскага паходу на Маскву. Лічыцца, што ён і навучыў мясцовых умельцаў майстраваць малатарні і ветракі.

Жонка Якуба паходзіла са старадаўняга лебедзеўскага роду Закрэўскіх. Амаль усе дарослыя мужчыны гэтага роду займаліся кушнерствам. Многія стагоддзі таму назад, калі яшчэ ў Лебедзеўскай пушчы вадзіліся мядзведзі, яны выраблялі на продаж мядзведжыя шкуры. У Лебедзеве ведалі Закрэўскіх і як добрых прадпрымальнікаў.

Ля іх дома знаходзілася сажалка. У ёй кушнеры перад апрацоўкай вымочвалі шкуры звяроў і свойскай жывёлы. Закрэўскія салілі ў дубовых бочках агуркі і захоўвалі іх у вадаёме ад канца лета аж да вясны. Пазней, калі сыходзіў лёд, яны выгадна прадавалі салёныя агуркі на рынку, ствараючы канкурэнцыю мясцовым яўрэям. У 1946 годзе Закрэўскія пакінулі Лебедзева, выехаўшы на пастаяннае месца жыхарства ў Польшчу.

## Французы ў Лебедзеве

Яшчэ адзін цікавы эпізод, які звязаны з вайной 1812 года. Аб ім расказала Ганна Ігнацьеўна Семашкевіч, якая пражыла 105 год. Звесткі пра тую вайну Ганне перадаў яе бацька Ігнат, якому некалькі разоў апавядаў пра падзеі 1812 года яго бацька Кандрат. Кандрату ў час вайны з Напалеонам было сем год, і ён добра запомніў адну з сустрэч з французамі.

Летам 1812 года праз Лебедзева рухалася на Маскву адна з груповак французскай арміі на чале з маршалам Даву. Частка французаў спынілася ў Лебедзеве на некалькі дзён для адпачынку і папаўнення запасаў правіянту, гарэлкі і матэрыяльных рэчаў.

**Па расказу Ганны, у Лебедзеве французы не займаліся марадзёрствам і рабаўніцтвам мясцовага насельніцтва. Тым не менш, розныя слаі лебедзеўскага грамадства паводзілі сябе па-рознаму ў адносінах да прышлых.**

Яўрэі, а гэта была большая частка тутэйшых жыхароў, стараліся ўслужыць французам. Адны з іх мусілі размясціць у заезных дамах (корчмах) на пастой афіцэраў, другія – яўрэі-рымары, рамантавалі рыштунак (вупраж) для запрагання коней, трэція забяспечвалі французскае войска прадуктамі і фуражом.

Шляхта спадзявалася на аднаўленне французамі Вялікага Княства Літоўскага і па гэтай прычыне падтрымлівала іх усімі магчымымі спосабамі. Простых люд трымаўся нейтралітэту і стараўся быць воддаль.

Ды і французы не мелі асаблівай патрэбы шукаць з імі кантакты. Многія дарослыя хаваліся ў гумнах, Казлоўскім рове і іншых сховішчах. Былі і такія, хто сышоў з небагатым пажыткам у лес. Дарослыя, каб не баяцца за сваіх дзяцей, якія праяўлялі асаблівую цікавасць да іншаземцаў, імкнуліся запужаць падлеткаў. Бацькі гаварылі ім: «Бойцеся іх! Французы садзяць малых дзяцей на пікі».

## Як дзяцей пужалі пікамі

У адзін з дзён знаходжання французаў у нашым мястэчку некалькі ваенных зайшлі ў двор да Посахаў, але там нікога не засталі. Тады завіталі да іх суседзяў. Дарослыя былі ў гумне і адтуль назіралі за няпрошанымі гасцямі. Іх дзеці – трое хлопчыкаў, сярод якіх быў і Кандрат, схаваліся пад падрубай печы, дзе зімой захоўвалі курэй падчас маразоў. У аднаго з падлеткаў, які вельмі спяшаўся, ногі засталіся звонку.

Французы, зайшоўшы ў дом, адразу іх запрыкмецілі. Салдаты паводзілі сябе мірна, стараліся не напалохаць дзяцей яшчэ больш. Асцярожна, пры дапамозе жэстаў, ваенныя прымусілі падлеткаў вылезці з-пад печы. Салдаты былі без зброі. Хлопчыкі адразу ўбачылі, што ў ваенных не было тых пікаў, якімі так часта пужалі іх дарослыя.

Адзін з французаў, вельмі высокі, трымаў у руках паланачкі – маленькія драўляныя начоўкі. Як потым стала вядома, у іх быў мёд з вашчынай. Дзе і ў каго гэты мёд французы ўзялі, хлопчыкам было невядома. У той час для дзяцей мёд быў рэдкім пачастункам. Многія з дзяцей той пары ўвогуле яго ніколі не каштавалі і нават не бачылі.

Салдаты, асвоіўшыся ў сялянскай хаце, павялі сябе, як гаспадары. На стале, накрытым льняным настольнікам з кутасамі, ляжаў чорны хлеб. Згарнуўшы настольнік і не знайшоўшы там нажа, разламалі акрайчык хлеба на кавалачкі і, мачаючы ў мёд, пачалі частаваць ім дзяцей. Дзіцячы страх прайшоў хутка, падлеткі, не звяртаючы ўвагі на страшылкі дарослых, былі рады пачастунку няпрошаных візіцёраў. У хуткім часе прыемная навіна аб добрых французах, якія раздаюць мёд дзецям, разляцелася па ўсім мястэчку.

**Антон АПАНАСЕВІЧ, Лебедзева.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Працяг будзе.*

● КАЛЯНДАР

**26 ЛІПЕНЯ**

**1875.** Нарадзіўся **Марцін Кухта**, друкар, выдавец кніг на беларускай, рускай, польскай і літоўскай мовах. У яго друкарні выйшаў першы нумар газеты «Наша Ніва» (1906).

**1965.** Нарадзіўся беларускі мовазнавец **Зміцер Саўка**. Аўтар мовазнаўчых слоўнікаў і энцыклапедый. Працаваў літаратурным кансультантам у шэрагу СМІ. Кансультаваў таксама «Рэгіянальную газету». Памёр у 2016 годзе.

**27 ЛІПЕНЯ**

**1320.** Бітва пад Меднікамі. Войска ВКЛ перамагло рыцараў Тэўтонскага ордэна.

**28 ЛІПЕНЯ**

**1944.** Савецкія войскі занялі Брэст. Беларусь цалкам вызваленая з-пад нямецкай акупацыі.

**2000.** У Катыні ўрачыста адкрыты мемарыял польскіх і расійскіх ахвяр НКВД. Сярод іх і этнічныя беларусы. У т.л. ураджэнцы і жыхары Павілля.

**29 ЛІПЕНЯ**

**1939.** Вярхоўны Савет БССР прыняў рашэнне перайменаваць горад Менск у Мінск.

**30 ЛІПЕНЯ**

**1840.** Мікалай I забараніў выкарыстанне тэрміну «Беларусь», замяніўшы яго на «губерні Паўночна-Заходняга краю».

**31 ЛІПЕНЯ**

**1802.** На Навагрудчыне, цяпер Карэліцкі раён, нарадзіўся Ігнат Дамейка, навуковец, рэфарматар, геолаг, мінеролаг, мемуарыст. Нацыянальны герой Чылі, займае важнае месца ў навуцы і культуры Беларусі, Літвы, Польшчы. У 2002 годзе Нацбанк Беларусі выпусціў памятную манету ў гонар Дамейкі.



**1920.** Спыніла існаванне Літоўска-Беларуская ССР. Другое абвяшчэнне ССРБ.

**1 ЖНІЎНЯ**

**1812.** Напалеон Банапарт выдаў дэкрэт аб стварэнні войска адноўленага ВКЛ.

**1914.** Пачатак Першай сусветнай вайны.

**1920.** Абвешчана аб стварэнні БССР.

**1923.** У Вішневе на Валожыншчыне нарадзіўся будучы прэзідэнт Ізраіля, лаўрэат Нобелеўскай прэміі міру Шымон Перэс. Памёр у 2016 годзе.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Прыклад для Беларусі. Як у Германіі змагаюцца са зменай клімату: ад забастовак да законаў

**Ад лістапада 2018 года ў Германіі і па ўсім свеце праводзяць забастоўкі дзеля клімату.**

Школьнікі, студэнты, людзі розных узростаў і прафесій выходзяць па пятніцах на галоўныя вуліцы гарадоў. Іх мэта – прыцягнуць увагу палітыкаў і грамадскасці да праблемы змены клімату і глабальнага пацяплення.

Ад лістапада 2018 года да ліпеня 2019 года на тэрыторыі Германіі прайшлі 384 забастоўкі (па інфармацыі праекта **FridaysForFuture**).

Кліматычныя страйкі па ўсім свеце пачаліся з адзіночнага пратэсту 15-гадовай Грэты Тунберг каля шведскага парламента. Тунберг стала сімвалам праекта FridaysForFuture і зараз з'яўляецца самай бачнай фігурай барацьбы супраць змены клімату.



Фота nu.nl.

Зусім хутка дзеці могуць не ведаць, які на смак сапраўдны шакалад.

### Змяненне клімату – рэальная праблема

У лютым 2019 года Міжурадавая група экспертаў па змене клімату пры ААН апублікавала даследаванне, у якім навукоўцы прыйшлі да высновы, што чалавек з'яўляецца асноўнай прычынай змены клімату.

Змяненне клімату ўплывае на наяўнасць вады, дзікую прыроду і здароўе чалавека. Парніковыя газы ўжо павялічваюць рызыку некаторых экстрэмальных з'яў. Клімат таксама паўплывае на вытворчасць прадуктаў харчавання. З-за яго змены могуць знікнуць кава, чай, арахіс, піва і віскі (засуха і неўраджай хмеля) і іншыя прадукты.

– Змена клімату – гэта абсалютна доказаны факт. Такі ж, як і тое, што прышчэпкі важныя і зніжаюць чалавечую смяротнасць, – распавядае эксперт Цэнтра экалагічных рашэнняў у Мінску **Дзмітры Буронкін**.

У 2016 годзе краіны-ўдзельніцы ААН падпісалі Парыжскае пагадненне. Яно заклікае рэгуляваць меры па зніжэнні вуглякіслага газу ў атмасферы. На дадзены момант яго падпісалі 196 краін. Германія і Беларусь знаходзяцца ў ліку дзяржаў, якія ратыфікавалі пагадненне.

### Германія актыўна змагаецца са зменай клімату

У ліку краін, якія змагаюцца з выкідамі вуглякіслага газу, ёсць і Германія. У краіне распрацаваны «План дзеянняў па клімаце да 2050 года». У рамках гэтага плана немцы збіраюцца кардынальна панізіць узровень вуглякіслага газу на тэрыторыі краіны за бліжэйшыя 30 гадоў.

Нямецкі план па скарачэнні газу больш амбіцыйны, чым у іншых краін Еўрапейскага саюза. Ён прадугледжвае зніжэнне выкідаў да 2020-га на 40% у параўнанні з 1990 годам. А ў ЕС усяго на 20%, паведамляе арганізацыя **Clean Energy Wire**. Аднак па апошніх даследаваннях Міністэрства навакольнага асяроддзя Германіі, яны не змогуць наблізіцца да гэтых лічбаў да наступнага года.

Але ўжо цяпер немцы значна наперадзе іншых краін у зніжэнні ўзроўню вуглякіслага газу і паляпшэнні навакольнага асяроддзя: плануецца, што ў наступным годзе выкіды будуць роўныя такому значэнню, якое было ў 1951 годзе.

Да канца 2019 года кіруючая партыя Германіі плануе прыняць законапраекты, звязаныя з кліматам.

### А што ў Беларусі?

Змяненне клімату і глабальнае пацяпленне з'яўляюцца актуальнай тэмай і для Беларусі. Пасля ратыфікацыі Парыжскага пагаднення мэта Беларусі – дасягнуць да 2030 года 28% выкідаў вуглякіслага газу ў параўнанні з 1990-м.

Навукоўцы адштурхоўваюцца ад 1990 года, таму што тады было праведзенае першае глабальнае даследаванне праблемы змянення клімату і яго наступстваў. Даклад Міжнароднай экспертнай групы адыграў вырашальную ролю ў стварэнні спецыяльнай камісіі па клімаце пры ААН.

Кліматолагі працуюць у розных галінах. Напрыклад, мітыгацыя (меры па ліквідацыі або зніжэнні доўгатэрміновай рызыкі і небяспекі кліматычных змяненняў) і адаптацыя.

– Ужо ёсць змены клімату, якія мы ніяк не можам прадухіліць, таму павінны працаваць у галіне адаптацыі. Трэба інвеставаць грошы ў сельскую і лясную гаспадаркі. Гэта неабходна для таго, каб тады, калі змены клімату будуць выяўленыя больш ярка, мы былі да іх гатовыя, – кажа Буронкін.

Германія можа быць прыкладам для Беларусі ў барацьбе са зменай клімату. Важна разумець, што кожная дзяржава ставіць пэўныя мэты, якія не варта пазычаць для сваёй краіны. Кожная мае свой кліматычны план і афіцыйныя законы.

Уж цяпер прымаюць рашэнні, звязаныя з забаронай забруджвання навакольнага асяроддзя, якія можа пераняць і Беларусь. Напрыклад, ад 2018 года ў рэгіёнах Эсэне і Гельзенкірхене ўвялі абмежаванне на выкарыстанне старых дызельных і бензінавых матораў. А Гамбург стаў першым горадам у Германіі, дзе ўвялі забарону на дызельныя аўто.

– Рашэнні па клімаце складаюцца з многіх задач. Беларусь эфектыўна рэалізуе праграмы энергазберажэння, якія дазваляюць скарачаць выкіды вуглякіслага газу. Мы не ўкараняем дастаткова аднаўляльных крыніц энергіі, але гэта з-за будоўлі атамнай станцыі, – дзеліцца Буронкін.

Беларусь мае свае кліматычныя мэты, і, на думку эксперта Цэнтра экалагічных рашэнняў, яна іх дасягне. Магчыма, што гэтыя мэты нават будуць перавыкананыя. Так адбудзецца з-за таго, што першапачатковa Беларусь паставіла перад сабой недастаткова амбіцыйныя задачы.

**Настасся УТКІНА.**

Рэгіянальная газета.

## План дзеянняў Германіі па клімаце

**2020 год**

Германія павінна дасягнуць узроўню выкідаў, якія ў апошні раз назіраліся ў 1951 годзе.

**2030 год**

Краіна павінна скараціць выкіды да ўзроўню 1934 года або 1948 года.

**2050 год**

2050 год – выкіды павінны быць зніжаныя да ўзроўню, зарэгістраванага ў 1855 годзе.

Інфаграфіка Ігара ПАЛЬНСКАГА.

● БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Валанцёр з Германіі развітаўся з Маладзечнам

## Ён цягам года навучаў дзяцей нямецкай мове

**18 чэрвеня ў бібліятэцы «Верасок» прайшоў развітальны вечар з валанцёрам з Германіі Лінусам Шэдэрмаерам.**

У Маладзечна прыехала яго сям'я, а на сустрэчы прысутнічалі настаўнікі і школьнікі, якія на працягу года працавалі з ім.

### Чаму Лінус жыў у Беларусі год?

Нямецкія школьнікі звычайна не паступаюць адразу ва ўніверсітэты. Ім даецца год, каб яны вырашылі, чым хочуць займацца ў далейшым. Хтосьці з іх працуе, хтосьці падарожнічае.

Ад 2014 года гімназія №10 прымае ўдзел у міжнародным праекце «Школы: партнёры будучыні». У школы ёсць пагадненне з Інстытутам Гётэ ў Мінску.

**Лінус прыняў удзел у ініцыятыве «Школы: партнёры будучыні». У яго была магчымасць з'ехаць у гродзенскую школу ці маладзечанскую. Хлопец выбраў Маладзечна, бо яму параіла гэты горад Табэа Зандэр. Яна раней таксама тут працавала.**

На працягу года Лінус выкладаў з настаўнікамі нямецкай мовы ў гімназіі №10. Увесь час у яго былі кантакты з бібліятэкай, дзе ён праводзіў розныя культурныя мерапрыемствы, распавядаў пра спорт у Германіі і пра папулярную музыку. А яшчэ Лінус правёў у Маладзечне адвент. Шэдэрмаер не абмяжоўваўся нямецкай, ён дапамагаў маленькім дзецям вывучаць англійскую мову.

Лінус знаходзіўся не толькі ў Маладзечне, а ездзіў па ўсёй Беларусі, дапамагаючы вывучаць нямецкую мову і пазнаваць культуру дзецям. Ён быў у Міры, наведаў Полацк. Па Полацку Лінусу зрабілі экскурсію студэнты мясцовага ўніверсітэта: слухалі музыку ў Сафійскім саборы, паказалі гістарычны цэнтр. Шэдэрмаер хацеў звазіць сям'ю ў Гродна, але ў яго не атрымалася. Аднак ён абяцаў, што абавязкова наведае і гэты беларускі горад.




Лінус з падарункам ад Таццяны Летуновай. У яго ў руках майка з беларускім арнаментам і шкарпэткі.

### Мама выкладае нямецкую мову, а бацька – скандынаўскую літаратуру

Бацька і маці Лінуса працуюць ва ўніверсітэце. Бацька, **Іахім**, выкладае скандынаўскую літаратуру, ведае шведскую і нарвежскую мовы. А мама, **Сімонэ**, выкладае нямецкую мову для замежнікаў. Цяпер у яе групе ёсць і беларускія студэнты. Лінус старэйшы за сваю сястру **Люцыю** на чатыры гады. Яна ходзіць у школу, іграе на кларнеце і займаецца балетам.

Сям'я Лінуса некалькі дзён жыла ў арандаванай кватэры ў Мінску. Немцам вельмі спадабалася сталіца, асабліва Няміга і будынак Нацыянальнай бібліятэкі. Іахім падзяліўся цікавай гісторыяй пра паездку ў Маладзечна.

– У электрычцы мы саступілі месца жанчыне з дзіцем, а яна адказала «данке»! Я быў так здзіўлены пачуць нямецкую.



Сям'я Шэдэрмаераў: Сімонэ, Люцыя, Іахім, Лінус.

### На сустрэчы размаўлялі выключна на нямецкай мове

На сустрэчы Іахім і Сімонэ з беларускімі настаўнікамі абмяркоўвалі адукацыю, дзяліліся сваім досведам, а таксама распавялі пра прыватныя і дзяржаўныя школы Германіі.

Немцам было цікава даведацца пра беларускую нацыянальную ежу. Калі гаворка пра бульбу і разнастайныя варыянты страў з яе скончылася, Лінус спытаў пра аліўе. Ён быў упэўнены, што салат аліўе робяць з алівамі. Аднак яго тут жа запэўнілі, што там іх няма, але ёсць бульба.

Супрацоўнік залы літаратуры на замежных мовах цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Летунова**, якая арганізавала сустрэчу з Лінусам і яго сям'ёй, распавяла, што планавалася сабраць больш людзей, але з-за летніх канікулаў гэта было праблематычна зрабіць.

– Вельмі цяжка сабраць людзей летам. Нехта ў летніку, хтосьці ў бабулі ў вёсцы ці яшчэ дзе-небудзь, – распавядае Таццяна Летунова.

Сустрэча прайшла на нямецкай мове, часам спікеры пераходзілі на англійскую. Настаўнікі і вучні ў апошні раз размаўлялі з Лінусам, але ўпершыню асабіста пазнаёміліся з яго сям'ёй.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Як трапіць у чарнобыльскую зону

## Аўтар «Рэгіянальнай газеты» пабываў у зоне адчужэння і дзеліцца ўражаннямі



Лялькі з выдзеўбанымі птушкамі тварамі нярэдка сустракаюцца ў зоне адчужэння.

**Серыял НВО «Чарнобыль» наноў абудзіў цікаўнасць да тэмы самай буйной тэхнагеннай катастрофы мінулага стагоддзя.**

Ужо мінулі 33 гады ад той даты, а мы і па сёння добра не ведаем усіх акалічнасцяў тых жудасных дзён і таго, як сёння жыве зона, што яна сабой уяўляе. Ва ўяўленні многіх Чарнобыль асацыюецца з тымі чорна-белымі фотаздымкамі апусцелых вёсак, якія друкавалі ў газетах пачатку 90-х. Мне неаднойчы ўдавалася пабываць у тых мясцінах, таму распавяду, як туды можна патрапіць легальна і што можна пабачыць.

Зона, забруджаная радыяцыяй, за калючым дротам. Падаецца, гэта першая асацыяцыя, якая ўзнікла з той тэрыторыяй. Тое, што мы называем зонай на тэрыторыі Беларусі – гэта Палескі дзяржаўны радыяцыйна-экалагічны запаведнік. Тэрыторыя, на якой афіцыйна стала не жывуць людзі, а толькі працуюць работнікі запаведніка, навукоўцы, леснікі і памежнікі.

Зона не мёртвая, там увесь час прысутнічаюць людзі і процьма жывёл. Большасць тэрыторыі абнесеная калючым дротам, але гэта з прычыны бяспекі.

**Жыхары суседніх вёсак і па сёння не вераць у радыяцыю і з ахвотай паехалі б у запаведнік па дзічыну, дровы ці ў грыбы-ягады.**

Для заезду на тэрыторыю радыяцыйнага запаведніка трэба атрымаць дазвол ад Дэпартамента аховы запаведніка. Адпаведныя паперы рыхтуюць каля месяца, таму атрымаць яго не так проста. Тут патрэбны найперш матывацыйны ліст альбо накіраванне ад навучальнай або іншай установы.

Аднаго вас нікуды не адпусцяць. Выдзяляюць аднаго з супрацоўнікаў запаведніка для суправаджэння. З патрэбнымі паперамі вы ідзяце на пункт пропуску, адмысловае КПП, і ўжо адтуль можна пачынаць вандроўку па зоне.

**Ёсць адна хітрасць. Адзін раз у год туды можна патрапіць без папер і пры гэтым афіцыйна. Гэта Радаўніца. У такі дзень межы запаведніка адчыненыя для наведнікаў, колішніх жыхароў выселеных вёсак. Каб усе ахвотныя маглі праведаць магілы дзядоў.**

### Чарнобыль паўсюль

Першы раз я патрапіў на гэту тэрыторыю чатыры гады таму. Быў моцна здзіўленым тым, што пабачыў.

Вакол запаведніка яшчэ адна зона – адсялення. Гэта тэрыторыя не так моцна забруджаная, як тая, што за калючым дротам. Адсюль у 1986-м высялялі мясцовых жыхароў. Збольшага з гэтых ваколіц рэпарцёры і прывозілі здымкі і сюжэты для навін.

Я пабачыў нармальную вёску без ніякіх прыкмет катастрофы. Тут жывуць павяртанцы, тыя, хто вырашыў вярнуцца на сваю зямлю і ў свой дом. Дагледжаныя агародчыкі, сады. Нават больш дагледжаныя і акуратныя, чым можна пабачыць у асобных паўвымерлых вёсках нашага рэгіёна. Тыя здымкі вымерлых вёсак, якія везлі з Чарнобыля рэпарцёры, цяпер можна зрабіць паўсюль. Гэта ўжо не выклікае такі шок, як у канцы 80-х.

Адказ на гэту загадку даведаўся, як толькі паразмаўляў з мясцовымі ў вёсках Навасёлкі і Дворышча Хойніцкага раёна. Аказваецца, гэта адмысловая дзяржпраграма па ўпарадкаванні забруджаных тэрыторый. Усё выглядае прыгожа толькі таму, што апусцелае і закінутае знішчаецца штодня. Нежылыя дамы зарываюць у велізарныя катлаваны экскаватарамі. І пасля такой зачысткі вёска выглядае дастаткова натуральна. Адзінае, што калі галоўная вуліца ў вёсцы цягнулася на пяць кіламетраў, то сёння тыя ж Навасёлкі выглядаюць некалькімі хутарамі. Праз год-другі ад знішчаных вёсак не застанецца і следу. Іх прысутнасць можна вызначыць па могілках, якія сярод поля стаяць некранутымі.

Экскаватар працуе найперш каля буйных дарог, каб прыгажосць і дагледжанасць маглі пабачыць высокія госці і замежныя дэлегацыі, таму за ўражаннямі варта выбірацца ўглыб. Тут сапраўдныя постапакаліптычныя сюжэты. Закінутыя вёскі з цэлымі вуліцамі апусцелых дамоў і рэдкімі жыхарамі. У кожнага павяртанца тут свая гісторыя, чаму вярнуліся і як жылі на забруджанай зямлі апошнія 30 гадоў. Ніхто не любіць казаць пра тое, але ўсе пакінутыя дамы былі разрабаваныя. Хто рабаваў, цяжка вызначыць.

Адна з такіх вёсак – Савічы Брагінскага раёна. Помнікі савецкім салдатам і цагляныя будынкі, велізарная школа і парослыя лазняком дамы – усё ў запусценні і выклікае неадназначныя пачуцці. Зблізу так выглядае ўся закрытая тэрыторыя запаведніка.

### Запаведнік

З нядаўняга часу кожны ахвотны можа замовіць турыстычны маршрут па тэрыторыі радыяцыйнага запаведніка. Беларускія ўлады нарэшце зразумелі, што на такім экзатычным турызме можна зарабляць. Абяцаюць спрасціць працэдуру па атрыманні допуску. Што ж там можна пабачыць?

КПП «Бабчын» стаіць на месцы былой аднайменнай вёскі. Тут знаходзіцца ўласна сам КПП, пажарная станцыя з вайсковай тэхнікай на гусеніцах, каб можна было даехаць у любы куток зоны, даследчая лабараторыя і жылы комплекс для навукоўцаў, музей. Асобная тэма для беларускіх навукоўцаў – як уздзейнічаюць малыя дозы радыяцыі на жывёльны свет. Адмыслова для гэтых патрэб у Бабчыне пабудаваны пчальнік і велізарны загон-матачнік для кабыл і іх малых жарэбчыкаў. Выдатнае месца, каб пафатаграфаваць. Але тут шмат афіцыёзу і мала цікавага, калі едзеш за іншымі ўражаннямі. Далей, у глыбіні зоны, ёсць зубрагадавальнік, але там варта пабываць узімку, калі для лясных волатаў мала ежы і яны на вячэру ідуць да кармушак.

Усе дарогі ў зоне ў добрым стане. Гэта не-

# і што там можна убачыць



Шыльды з назвамі выселеных вёсак.


Паржавелы пажарны катар на прытоку Прыпяці выдае дозу ў 225.



Запіс у сшытку 33-гадовай даўніны.



Лісткі календара з датай «26».



Шыльда 1966 года.



Савецкія агітацыйныя плакаты і стужкі.

абходна найперш, каб хутка тушыць пажары. Засталіся ўказальнікі з назвамі былых вёсак. На беларускім баку іх было каля 95. І сёння яны яшчэ існуюць у выглядзе драўляных шкілетаў. Асобныя цагляныя дамы здалёк, быццам міражом, падаюцца жылымі. Пра гэта не прынята казаць, але часам можна пачуць, што неафіцыйна ў зоне жывуць людзі. Не супрацоўнікі запаведніка і леснікі, якія там нясуць службу цягам двух тыдняў на месяц, а выхадцы з сярэднеазіяцкіх рэспублік. А чаму б і не? Там процьма жывёл, поўная свабода і незалежнасць. Адзінае, што радыяцыя, якая павольна забівае.

Выбіраючыся ў такое падарожжа, лепей браць з сабой запасную вопратку. Тую, якую не шкада пасля пакінуць на сметніцы. За яркімі фарбамі жывой прыроды хаваецца радыяцыя. За тры дзесяцігоддзі яна нікуды не знікла і больш за ўсё яе ў зямлі.

**Дазіметры звіняць без перапынку. Пры норме ў 0,33 месцамі доза падскоквае да 200-400 адзінак. Паржавелы пажарны катар на прытоку Прыпяці выдае дозу ў 225, а пясчаная дарога да пасёлка Сонечны – да 400.**

## Містыка зоны

Ёсць рэчы, на якія звяртаеш увагу адразу. Штосьці справакавалі турысты, але некаторыя рэчы адбыліся без уплыву людзей.

26-га. Натуральна, што ў зоне жыццё гэтым днём не спынілася і афіцыйна адсяляць пачыналі толькі 3-4 мая 1986 года. Розныя лісткі календара на бачным месцы апусцелых дамоў з гэтай лічбай не болей як след мінулых вандровак па зоне. Калі добра прыглядзецца, то такіх слядоў будзе процьма. Гэта і выцягнутыя з кустоў шкілеты матацыклаў і іншай тэхнікі, развешаныя савецкія агітацыйныя плакаты.

Са слоў супрацоўнікаў запаведніка, на ўсіх могілках дрэвы пассыхалі. У гэтым я неадночы пераканаўся. Проста пасярод квітнеючай зеляніны ў межах могілкавай агароджы стаяць сухія дрэвы. Дзіўна гэта выглядае.

Лялькі без твараў. Яны паўсюль такія, і тут не паверыш у нейкую адметную гульню турыстаў альбо сталкераў (турыстаў-нелегалаў), калі сам бачыш на ўласныя вочы, як птушкі клююць забытыя цацкі.

Вандраваць альбо не па такім маршруце, кожны вырашыць для сябе. Варта ведаць, што гэта можа быць небяспечна і збочваць нікуды не трэба. Нечага звышнатуральнага вы не пабачыце. Усё тая ж беларуская вёска, якая даўно памірае.

**Сяргей ЛЕСКЕЦЬ.**
**Фота аўтара.**

● ФУТБОЛ

## Смаргонскія футбалісты ў другі ў сезоне перамаглі

Сапернікамі «Смаргоні» (першая ліга) былі гульцы з Пінска. **Уладзімір Казко** адкрыў лік у матчы, але яго партнёр па камандзе **Дзяніс Гружэўскі** забіў аўтагол. **Віталь Ганічаў** і **Дзмітры Харнаўцаў** са «Смаргоні» паспелі забіць па адным голе ў другім тайме, тым самым захапілі перавагу ў сустрэчы. Уладзімір Казко аформіў дубль у другой палове гульні, але матч завяршыўся голам пад аўтарствам **Паўла Расолькі** з 11-метровай адзнакі. Лік – **4:2** на карысць смаргонскіх футбалістаў.

## «Ашмяны» перамаглі лідара другой лігі і іншыя вынікі камандаў Павілля

«Ашмяны» атрымалі перамогу над лідарам другой лігі дзяржынскім «Арсеналам» з лікам **1:0**. Пасля без галявога першага тайма **Аляксандр Казёл** забіў мяч у вароты сапернікӑў.

Такім чынам, ашмянская каманда нанесла «Арсеналу» першае паражэнне ў сезоне, а таксама дадала ў свой актыў тры ачкі.

**Ашмянцы па-ранейшаму знаходзяцца на другім месцы ў турнірнай табліцы.**

Чысцінскі «Андэрдог» адзначыўся трыма галамі ў матчы з «Белшынай-2». **Кірыл Касьянаў** з бабруйскай каманды падарыў чысцінскім футбалістам аўтагол за некалькі хвілін да заканчэння першага тайма. У другой палове **Мікіта Мятліцкі** павялічыў адрыў ад сапернікаў, забіўшы пенальці. А праз некалькі хвілін **Сяргей Тарчыла** рэалізаваў яшчэ адзін удар, але на гэты раз з гульні. «Андэрдог» зарабіў перамогу дома з лікам **3:0**, размяшчаецца на пятым месцы чэмпіянату другой лігі.

ФК «Маладзечна» абыграў «Нёман-Агра» ў выязным матчы.

**Маладзечанцы змаглі забіць 11 галоў у Стоўбцах.**

Павезлі дадому пакуль што самую буйную перамогу ў сезоне – **11:1**. «Нёман-Агра» змог вызначыцца на 32-й хвіліне, але ўжо ў другім тайме не кантраляваў гульню. **Уладзіслаў Кнацько-Штэрк**, **Сяргей Крот** і **Андрэй Емяльянаў** адзначыліся хет-трыкамі, а **Павел Логач** адкрыў лік у матчы.

**Настасся УТКІНА.**

## Былы футбаліст «Смаргоні» падпісаў кантракт з лідарам беларускага чэмпіянату

**Аляксей Наско**, які гуляў у 2016 годзе за ФК «Смаргонь», падпісаў кантракт з брэсцкім «Дынама». На дадзены момант гэта каманда – лідар беларускага футбольнага першынства ў вышэйшай лізе. Пагадненне футбаліста разлічанае да канца 2021 года. Астатнюю частку сезона 2019 года ён правядзе ў «Энергетыку-БДУ» на правах арэнды.

**Паводле shliah.by.**

## Хакеісты «Дынама-Маладзечна» рыхтуюцца да сезона

24 ліпеня каманда згуляла таварыскі матч з «Сібірскімі снайперамі» на дамашнім лёдзе. Гульня завяршылася ў дадатковы час з лікам 6:3 на карысць «Дынама».

Ад жніўня пачынаецца групавы этап Кубка Салея.

**У сезоне-2019/20 фармат турніру змяніўся. На групавой стадыі 16 камандаў падзеляцца на дзве групы па восем камандаў у кожнай.**

1-14 жніўня хакейныя клубы правядуць першыя гульні.

**Расклад для «Дынама-Маладзечна»:**

**1 жніўня:** «Хімік» – «Дынама-Маладзечна» – U18
**3 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – U18
**5 жніўня:** «Ліда» – «Дынама-Маладзечна»
**7 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – «Металург»
**10 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – «Віцебск»
**12 жніўня:** «Шахцёр» – «Дынама-Маладзечна»
**14 жніўня:** «Дынама-Маладзечна» – «Брэст».

**Аддзел інфармацыі.**




На трэніроўку па ёзе прыйшлі 54 чалавекі.

# «Мы нават не ведалі, колькі прыйдзе людзей»

## У маладзечанскім парку арганізавалі заняткі па ёзе

**Мужчыны і жанчыны розных узростаў наведалі адкрытую трэніроўку па ёзе ў парку. Заняткі правяло таварыства «Бумеранг дабра». Арганізацыя займаецца дапамогай і падтрымкай дзяцей і сямей, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі.**



Удзельнікі займаліся ёгай пад кіраўніцтвам прафесійнага фітнес-інструктара.

### Спартыўную акцыю правялі ўпершыню

Па словах аднаго з заснавальнікаў «Бумерангу дабра» **Вольгі Куратнік**, спартыўнае мерапрыемства паспрабавалі правесці ўпершыню. Да гэтага рабілі толькі культурныя сустрэчы і майстар-класы для дзяцей.

– Спорт мы паспрабавалі першы раз. Гэта ж карысна, прыцягваем людзей да здаровага ладу жыцця.

**Увогуле не ведалі, ці будзе цікавы і колькі прыйдзе людзей, – распавядае Куратнік.**

### «Трэба было знайсці месца і трэнера»

Мерапрыемства спецыяльна не рэкламавалі: толькі размясцілі некалькі аб'яў у інтэрнэце аб тым, што адбудзецца трэніроўка.

**Галоўнымі задачамі перад арганізатарамі сталі пошук месца і спартыўнага інструктара.**

Начальнік атракцыёнаў **Міхаіл Капуцкі** прапанаваў некалькі варыянтаў для адкрытай трэніроўкі па ёзе. Знайсці трэнера аказалася таксама проста: маладзечанскія фітнес-цэнтры пайшлі на кантакт.

**Ёга – від спорту на аснове рытмічнай гімнастыкі і аэробікі.**

– Людзям вельмі спадабалася. Падыходзілі адразу пасля трэніроўкі, пыталіся, калі мы такое правядзём у наступны раз.

**Да нас на ёгу прыйшлі нават мужчыны. Хтосьці з жонкай, а хтосьці адзін, – дзеліцца Куратнік.**

Усяго на заняткі па ёзе прыйшлі 54 чалавекі. У канцы трэніроўкі паміж удзельнікамі разыгралі абанемент у фітнес-клуб.

**«Бумеранг дабра» плануе праводзіць такія спартыўныя акцыі і ў далейшым.**

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Прадметы абстаноўкі памяшкання.
4. Довад або факт, які з'яўляецца падставай для сцвярджэння.
5. Раўніна, вялікая ўпадзіна паміж гор ці ўзгоркаў.
10. Хуткі і бесперапынны рух у розных напрамках.
11. Назва гэтага амерыканскага горада на адным з індзейскіх дыялектаў значыць «дзікі часнок».
13. Пры прыёме ў гэту беларускую творчую супольнасць Уладзімір Жылка быў хроснікам Уладзіміра Дубоўкі.
14. Дваранскі тытул у старой Францыі, у Англіі і некаторых іншых краінах, сярэдні паміж тытулам барона і графа, а таксама асоба з такім тытулам.
15. Найлепшы вынік, дасягнуты ў спорце, у працы.
16. Палітычная паліцыя ў буржуазна-памешчыцкай Польшчы (1918-1939), якая вяла барацьбу з рэвалюцыйным рухам.
17. Аб вялікай адлегласці ўверх.
18. Рад людзей, якія стаяць па прамой лініі і тварам у адзін бок.
21. Сукупнасць звязаных паміж сабой дзеянняў, падзей, у якіх раскрываецца асноўны змест мастацкага твора і характары дзеючых асоб.
22. Вялікае сяло з некаторымі прыкметамі горада, пасёлак гарадскога тыпу.
23. Упакоўка.
26. Разборка машын, станкоў, абсталявання пры рамонце або перамяшчэнні іх на новае месца.
27. Злепак, мадэль прадмета ў натуральную велічыню.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Назва часопіса, які ў 1972 годзе ўзначаліў Генадзь Бураўкін.
2. Населены пункт у Маладзечанскім раёне, дзе стаіць помнік Віленскаму тракту.
3. Зборы вясковай моладзі зімовымі або асеннімі вечарамі для сумеснай работы.
6. Рыгор Барадулін: «… не ўзнікае так – Ён збываецца, адбываецца Як ратай, Як дзівак, Як мастак, Ад якога свет адбіваецца».
7. Горад з тэлефонным кодам +375 1593.
8. Пісьмовая або вусная згода, дамоўленасць.
9. Аператыўныя дзеянні, звязаныя з выяўленнем і пошукамі злачынцаў.
12. Паліграфіст.
15. Бок манеты, адваротны гербаваму малюнку.
19. Смяротная кара, якая выконваецца выстралам з агнястрэльнай зброі.
20. Гэты трапічны фрукт упрыгожвае сцягі Ямайкі, Антыгуа і Барбуды.
22. Ніжняя мясістая частка вуха.
24. Кожны асобны ўпуск паветра ў лёгкія пры дыханні, які чаргуецца з выдыхам.
25. У Старажытным Егіпце іх клалі ў падушкі замест пёраў.

## Адказы на крыжаванку з №29

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Жаўнер. 2. Выпечка. 3. Норма. 4. Вагон. 6. Кабальера. 8. Гашкевіч. 10. Сучасны. 11. Сяржант. 12. Жывот. 13. Уваход. 15. Нумар. 18. Выраз. 19. Кабыльнік. 21. Рэсурсы. 24. Пашпарт. 25. Слон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Жоўты. 5. Валацуга. 7. Чарада. 9. Нераст. 10. Сцяна. 12. Жыта. 14. Вянок. 16. Кошкі. 17. Невук. 20. Бейсбол. 22. Ніколі. 23. Сястра.

## ● ГАРАСКОП. ЯКІ ВЫ ГАСПАДАР?



**АВЕН**. Вы ведаеце, як трэба рабіць усё. Паклаcці падлогу, змайстраваць цяпліцу, вырасціць дыню. Вы ўмееце размеркаваць працу так, каб кожны паўдзельнічаў у ёй па гаспадарцы.



**ЦЯЛЕЦ**. Вы любіце прымяняць у гаспадарцы ўсе навінкі. Як толькі нешта выпусцяць на рынку, гэта адразу вам трэба. Устрымайцеся ад неабдуманага куплення такіх рэчаў. Вы ж выдатна ведаеце, што большасць з іх так і застаюцца ляжаць на паліцах.



**БЛІЗНЯТЫ**. Вы любіце падыходзіць да гаспадарчых спраў грунтоўна. Калі ўжо займацца, то нечым сур'ёзным – шпалеры пераклеіць, сцяну знесці, замяніць душавую кабінку у ваннай. Дробныя справы наганяюць на вас сум.



**РАК**. Калі вы бярэцеся за прыборку, вас ужо не спыніць. Не могуць Ракі проста ўзяць і працерці пыл. Калі ўжо брацца за чысціню, то так, каб вынесці 20 мяшкоў смецця, вычысціць усе паверхні і пераўтварыць пакой у новую чыстую прастору.



**ЛЕЎ**. У вас павінны быць такі прадак, каб іншыя паміралі ад зайздрасці. Самыя прыгожыя кветкі, вялікія кабачкі і смачныя салаты павінны быць менавіта ў вас. А як жа быць лепшым без ноткі арыгінальнасці?



**ДЗЕВА**. Сярод прадстаўнікоў гэтага знака дзве крайнасці. Або ў вас поўны бардак, або фанатычны парадак. Ці ў вас кожная шчылінка мае бездакорны выгляд, ці вы проста не заўважаеце, як спатыкаецеся аб кінутыя на падлозе рэчы.



**ШАЛІ.** Адкуль у доме зноў узяўся пыл, чаму зноў няма прадуктаў у халадзільніку і якім чынам брудны посуд сам сябе забрудзіў? Шалі спрабуюць падтрымліваць парадак, але часцей трымаецца так нядоўга, што складана зразумець, навошта столькі працы?



**СКАРПІЁН.** Што вас па сапраўдным хвалюе дома, то гэта смачная ежа. Калі ўсе накормленыя і задаволеныя, усё астатняе не так важна. І вы сапраўдны мастак на кухні, вашы кулінарныя шэдэўры здзіўляюць усіх блізкіх. Здаецца, вы знайшлі сваю суперсілу.



**СТРАЛЕЦ.** Вы за парадак, але каб ім займаўся хто-небудзь іншы. Тым больш, што ўвесь гэты бруд не вы адны развадзілі.



**КАЗЯРОГ.** Вы любіце парадак і патрабуеце, каб яго трымаліся іншыя. У вашай сям'і абавязкі размеркаваныя паміж усімі. Кожны ведае, за што адказвае і калі павінны займацца сваёй справай. А калі хто забудзецца, вы адразу ж нагадаеце.



**ВАДАЛЕЙ.** Творчы беспарадак – гэта пра вас. Самае неабходнае у доме робіцца, а астатняе, можа, і не настолькі трэба. У рэшце рэшт, з парадкам можна і паленавацца, ёсць жа столькі цікавых заняткаў!



**РЫБЫ.** Вы ўсё робіце з любоўю. Раскладаеце рэчы па палічках, даглядаеце расліны, упрыгожваеце кожны пакой. Калі вы любіце дом і тых, хто ў ім, то вашага натхнення хопіць, каб зрабіць у ім цуд.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | | 2 | | 8 | | | |
| | 7 | 6 | | 9 | | 5 | | |
| | | | 6 | | | 7 | 8 | 9 |
| | 2 | | 8 | 3 | | | | 5 |
| 4 | | | | 2 | 9 | | | |
| 9 | | | 7 | 1 | | | | 4 |
| | 1 | | | 6 | | | 4 | |
| | | 7 | | 4 | | 8 | | |
| | | | 1 | | | 3 | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

Рэгіянальная газета. Rh.by



***

Як бацькі прывучалі мяне да самастойнасці:
Прыходжу дадому, бачу запіску:
– Сасіскі на стале.
У наступны раз:
– Сасіскі ў каструлі на пліце, разагрэй.
Пасля:
– Сасіскі ў халадзільніку. Звары.
Потым:
– Сасіскі ў краме. Грошы на стале. Схадзі, купі і звары.
Апошняя запіска:
– Сасіскі ў магазіне. Грошы на рабоце.

***

Пацыент вельмі хвалюецца перад аперацыяй. Хірург яго супакойвае:
– Я рабіў такую аперацыю ўжо 128 разоў.
Хворы з палёгкай уздыхае:
– Ух-ф ...
Хірург:
– Так, калісьці ж, нарэшце, павінна атрымацца!

***

Дажылі да зарплаты, грошы яшчэ засталіся. Сядзім, думаем: навучыліся эканоміць ці ўсё ж забыліся заплаціць за адзін з крэдытаў?

# Запрашаюць на свята мёду

АШМЯНЫ

**11 жніўня адбудзецца «Граўжышкаўскі мядовы кірмаш».**

Мерапрыемствы пройдзе ў Граўжышках Ашмянскага раёна. Пачатак а 18 гадзіне.

На адкрыцці ўдзельнікаў чакае тэатралізаванае прадстаўленне і ўшанаванне пчаляроў.

У 19 гадзін пачнецца таварыская сустрэча па валейболе сярод каманд Граўжышкаўскага сельсавета.

**У 19:30 пачнецца святочная праграма «Суквецце талентаў».**

А 21 гадзіне падвядзенне вынікаў гульні ў валейбол. Ад 21:10 да гадзіны ночы будзе дыскатэка.

На творчай пляцоўцы пройдзе майстар-клас па вырабе вулляў, конкурс малюнкаў на асфальце і конкурс па пляценні вянкоў з палявых кветак-меданосаў.

Цягам свята будзе выстава работ народных майстроў і дэгустацыя мёду.

**Аддзел інфармацыі.**



## Чытайце праз тыдзень

- **Ад 15 да 28 ліпеня дабрачынны фонд «Крэўскі замак» ладзіў археалагічныя раскопкі ў Крэве. «РГ» наведала археолагаў і распавядае пра самыя цікавыя знаходкі падчас экспедыцыі.**

## 27 ліпеня, субота

**Вецер:** паўночна-ўсходні, 5-6 м/с




Усход 5.15
Захад 21.22
Даўжыня дня 16.07

Усход 1.03
Захад 16.47
Месяц на сходзе

**ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я.** НАРАЧ

Мінімальная тэмпература +6,9°С у 1978 годзе
Максімальная тэмпература +31,5°С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 34,8 мм у 1977 годзе

Паводле meteoinfo.by.



ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Якая ваша любімая садавіна і гародніна?



**Сямён Плотнікаў, майстар тэлекамунікацый:**
– Мне падабаецца бульба, таму што гэта ўніверсальны прадукт, з яе можна зрабіць 33 стравы. Да садавіны стаўлюся спакойна, а вось кавун навявае ўспаміны з дзяцінства.



**Раман Салей, трэнер па плаванні:**
– Памідор, таму што ён мае прыемны смак і водар. Манга, таму што смачна і прыносіць асалоду.



**Наталля Астапчык, закройшчык-кравец:**
– Я люблю нектарыны, прываблiваюць іх смакавыя якасці і знешні выгляд. Яшчэ падабаецца вараная бульба, менавіта маладая і ў халодным выглядзе.



**Мікіта Новік, студэнт:**
– Сярод гародніны і садавіны вылучаю бульбу і яблыкі – гэта танна, даступна, непатрабавальна да захоўвання і ад іх мала адходаў.



**Галіна Зайкоўская, пенсіянерка:**
– Мая любімая гародніна – гэта морква. Яе я дадаю амаль ва ўсе стравы. Яна дапамагае супраць ракавых захворванняў. У перыяд чарнобыльскай аварыі моркву выкарыстоўвалі пры распрацоўцы новых малочных прадуктаў з керацінам.



**Наталля Салодкая, студэнтка:**
– Больш за ўсе люблю агуркі, яны лёгкія і іх можна многа з'есці. Яшчэ падабаюцца бананы, таму што вельмі салодкія і пажыўныя.



**Аляксандр Шапяленка, інжынер-будаўнік:**
– Люблю агуркі. Яны на 97 працэнтаў складаюцца з вады, таму выдатна наталяюць смагу. І, канешне, салёны агурочак – заўсёды добрая закуска.

**Падрыхтавала Ірына БУБНОВА, факультэт журналістыкі БДУ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 4100 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№30 (1265) 26.07.2019. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1162. Падпісана ў друк у 9.00 25.07.2019.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.